ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 26 (2605)
ПЯТНІЦА
30
чэрвеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.





**ТРЭЦЯГА ЛІПЕНЯ 1944 года для мінчан скончыліся чорныя часы фашысцкай акупацыі!**

**Бы магутная навальніца, Савецкая Армія змяла́, зчысціла, змыла з беларускай зямлі брудную цвіль фашызму і пакацілася далей на Захад, несучы народам Еўропы жыццё і свабоду.**

**Трэцяга ліпеня—святы дзень для мінчан, для кожнага беларуса. Дзень, калі аддаецца даніна пашаны героям, калі схіляюцца галовы ў памяць пра тых, хто загінуў.**

**Гэтыя дзве работы — «Дарогамі Перамогі», «Памяць» — стварылі выпускнікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута У. Уродніч, У. Тоўсцік. Яны — пра нялёгкі салдацкі абавязак, пра подзвіг, пра Памяць...**

Нататка пра дыпломныя работы выпускнікоў мастацкага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута — на стар. 5.

## У ЦК КПСС і Савеце Міністраў СССР

# АБ ЗАВЯРШЭННІ ПЕРАХОДУ ДА ЎСЕАГУЛЬНАЙ СЯРЭДНЯЙ АДУКАЦЫІ МОЛАДЗІ І ДАЛЕЙШЫМ РАЗВІЦЦІ АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНАЙ ШКОЛЫ

ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову па пытанні аб завяршэнні пераходу да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі моладзі і далейшым развіцці агульнаадукацыйнай школы. Агульнаадукацыйная школа, адзначаецца ў пастанове, за апошнія гады значна ўзмацнела як школа адзіная працоўная і політэхнічная. Вырасла сетка сярэдніх школ, павялічылася колькасць кваліфікаваных настаўнікаў, удасканальваецца навучальна-выхаваўчы працэс. У краіне ствараюцца ўсе ўмовы для завяршэння пераходу да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі, як адной з важнейшых перадумоў далейшага сацыяльна-палітычнага і эканамічнага развіцця нашага грамадства па шляху да камунізма, росту сацыялістычнай свядомасці і культуры працоўных. Усё гэта з'яўляецца буйным дасягненнем у галіне народнай асветы.

У пастанове ўказваецца далей, што практычнае ажыццяўленне рашэнняў XXIV з'езда КПСС у галіне эканомікі, навукі і культуры патрабуе далейшага паляпшэння ўсёй справы навучання і выхавання падрастаючага пакалення, павышэння якасці работы агульнаадукацыйнай школы. Асабліва важна ў сучасных умовах прывесці работу школ у адпаведнасць з новымі задачамі камуністычнага будаўніцтва, з патрабаваннямі навукова-тэхнічнага прагрэсу. ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР звярнулі ўвагу на тое, што ў школах яшчэ недастаткова ўкараняюцца новыя, актыўныя метады і тэхнічныя сродкі навучання. Не поўнасцю выкарыстоўваюцца наяўныя магчымасці для выхавання школьнікаў у духу камуністычнай маралі, высокай культуры паводзін, свядомых адносін да вучобы і працы. Навукова - педагагічныя ўстановы марудна распрацоўваюць важныя праблемы адукацыі, выхавання і прафесійнай арыентацыі навучэнцаў. Падрыхтоўка настаўніцкіх кадраў недастаткова ўвязана з практыкай і запатрабаваннямі сучаснай агульнаадукацыйнай школы.

Паспяховае вырашэнне задач у галіне асветы ў многім будзе залежыць ад дзейнасці перш за ўсё органаў народнай асветы, а таксама ад партыйных, савецкіх, прафсаюзных, камсамольскіх арганізацый, ад іх актыўнай і пастаяннай увагі да школ.

ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР абавязалі Міністэрства асветы СССР, Саветы Міністраў саюзных рэспублік, органы народнай асветы прыняць меры па ліквідацыі недахопаў у рабоце агульнаадукацыйных школ, накіраваць іх намаганні на выкананне задач, якія вынікаюць з пастановы XXIV з'езда КПСС у галіне далейшага развіцця асветы, завяршэння пераходу да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі, павышэння якасці навучання і выхавання падрастаючых пакаленняў. Дабівацца, каб савецкая школа давала моладзі глыбокія і трывалыя веды аб законах прыроды і грамадства, фарміравала марксісцка-ленінскі светапогляд, выхоўвала імкненне моладзі да актыўнай працоўнай і грамадскай дзейнасці, беззапаветнага служэння сацыялістычнай Радзіме, адданасці ідэям камунізма.

Органам асветы, партыйным, савецкім, грамадскім арганізацыям прапанавана прыняць меры да больш поўнага ахопу моладзі сярэдняй адукацыяй, развіваць і ўдасканальваць агульнаадукацыйную школу як працоўную і політэхнічную, якая з'яўляецца асноўнай формай атрымання агульнай сярэдняй адукацыі, рашуча палепшыць работу вячэрніх (зменных) і завочных агульнаадукацыйных школ, стварыць неабходныя ўмовы для завяршэння сярэдняй адукацыі працуючай моладдзю, разам з органамі прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі забяспечыць высокі ўзровень агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі ў сярэдніх прафесійна - тэхнічных вучылішчах і тэхнікумах.

Цэнтральным Камітэтам КПСС і Саветам Міністраў СССР даручана Дзяржплану СССР, Міністэрству асветы СССР, Саветам Міністраў саюзных рэспублік разам з ЦСУ СССР увесці адзіную методыку планавання і ўліку агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі моладзі з тым, каб забяспечыць найбольш поўнае выкарыстанне ўсіх форм сярэдняй адукацыі.

Міністэрства асветы СССР, Акадэмія педагагічных навук СССР, Саветы Міністраў саюзных рэспублік, органы народнай асветы, кіраўнікі і настаўніцкія калектывы школ абавязаны ўзмацніць увагу да далейшага ўдасканалення навучальна-выхаваўчага працэсу, узняць тэарэтычны і ідэйна-палітычны ўзровень выкладання. Завяршыць да 1975 года ўвядзенне новых навучальных планаў і праграм па ўсіх школьных курсах. На іх аснове падрыхтаваць і выдаць стабільныя падручнікі і камплекты вучэбна-метадычных дапаможнікаў, якія адлюстроўвалі б сучасны ўзровень дасягненняў навукі і вытворчасці. Палепшыць выкладанне рускай і роднай моў у нацыянальных школах. Абсталяваць ва ўсіх сярэдніх школах кабінеты ў неабходнай колькасці. Паслядоўна абнаўляць і рабіць разнастайнымі метады выкладання, больш эфектыўна выкарыстоўваць тэхнічныя сродкі навучання, кіно, радыё і тэлебачанне.

Прыняць меры да далейшага ўдасканалення маральнага, эстэтычнага, прававога, ваенна-патрыятычнага і атэістычнага выхавання вучняў, праяўляць пастаянныя клопаты аб фізічным развіцці школьнікаў, дабівацца далейшага ўмацавання сувязей школы і сям'і, адзінства маральных патрабаванняў у сям'і і школе.

З мэтай далейшага ўмацавання сувязі школы з практыкай камуністычнага будаўніцтва Міністэрству асветы СССР і мясцовым органам народнай асветы даручана развіваць політэхнічнае навучанне на базе цеснага спалучэння вывучэння школьных прадметаў і асноў сучаснай вытворчасці. Сістэматычна праводзіць экскурсіі вучняў на заводы, фабрыкі, у саўгасы і калгасы, знаёміць іх з тэхналагічнымі працэсамі і арганізацыяй працы на прадпрыемствах. Дабівацца паляпшэння працоўнага выхавання і прафесійнай арыентацыі школьнікаў на працягу ўсяго перыяду навучання. Разам з прамысловымі і сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі ствараць і аснашчаць вучэбныя цэхі, школьныя і міжшкольныя вучэбна-вытворчыя майстэрні. Развіваць і ўдасканальваць работу вучнёўскіх вытворчых брыгад і іншыя педагагічна абгрунтаваныя формы арганізацыі працы вучняў. Прызнана мэтазгодным прыцягваць школьнікаў, асабліва старшакласнікаў, у перыяд канікул да арганізаванага працоўнага ўдзелу ў народнай гаспадарцы, добраўпарадкаванні і азеляненні гарадоў і вёсак, у ахове прыроды.

Саветам Міністраў саюзных і аўтаномных рэспублік, выканкомам краявых, абласных Саветаў дэпутатаў працоўных, міністэрствам і ведамствам СССР, прадпрыемствам і арганізацыям, калгасам і саўгасам прапанавана расшырыць сетку вячэрніх школ, іх філіялаў па месцы работы моладзі і ўмацоўваць іх матэрыяльную базу. Вызначаць штогодняя планавыя заданні ўцягнення ў школы маладых рабочых, калгаснікаў і служачых па кожным прадпрыемстве, саўгасе, калгасе і ўстанове.

Ва ўмовах усеагульнай сярэдняй адукацыі ўзрастае адказнасць настаўніка перад грамадствам за навучанне і выхаванне маладога пакалення. Настаўнік усімі сваімі паводзінамі, ва ўсіх сваіх учынках і дзеяннях павінен служыць прыкладам для вучняў, быць узорам высокай камуністычнай маралі, ідэйнай перакананасці, культуры, прынцыповасці і шырокай эрудыцыі. Для стымулявання пастаяннага росту кваліфікацыі, педагагічнага майстэрства і творчай ініцыятывы выкладчыцкіх кадраў уводзіцца сістэматычная атэстацыя настаўнікаў агульнаадукацыйных школ. Настаўнікам, якія найбольш вызначыліся, па выніках атэстацыі будуць прысвойвацца званні «старшы настаўнік» і «настаўнік-метадыст».

З мэтай забеспячэння адзінства патрабаванняў у падрыхтоўцы настаўнікаў, набліжэння педагагічных навучальных устаноў да школы прызнана неабходным аб'яднаць кіраўніцтва педагагічнымі інстытутамі і педагагічнымі вучылішчамі ў сістэме міністэрстваў асветы СССР і саюзных рэспублік. Прадугледжаны меры па паляпшэнні падрыхтоўкі настаўнікаў ва універсітэтах.

Міністэрству асветы СССР і Саветам Міністраў саюзных рэспублік прапанавана ўзняць ролю інстытутаў удасканалення настаўнікаў як вядучых навучальна - метадычных цэнтраў павышэння кваліфікацыі педагагічных кадраў, узбагачэння і пашырэння перадавога вопыту. Арганізаваць кафедры педагогікі і псіхалогіі ў рэспубліканскіх інстытутах удасканалення настаўнікаў.

Акадэміі педагагічных навук СССР даручана распрацаваць і падрыхтаваць рэкамендацыі па наступных напрамках: павышэнне навуковага ўзроўню выкладання; вызначэнне найбольш эфектыўных шляхоў ажыццяўлення політэхнічнага навучання, працоўнага выхавання і прафесійнай арыентацыі; выкарыстанне тэхнічных сродкаў у навучанні і выхаванні; удасканаленне форм узаемадзеяння школы, сям'і і грамадскасці ў выхаванні дзяцей і моладзі; планаванне, эканоміка і арганізацыя асветы, суадносіны агульнай і спецыяльнай сярэдняй адукацыі; перспектывы развіцця сярэдняй школы, яе структуры і арганізацыйных форм навучальна-выхаваўчай работы.

Акадэміі навук СССР, рэспубліканскім і галіновым акадэміям, Міністэрству вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР рэкамендавана распрацаваць меры па аказанні дапамогі органам народнай асветы ў павышэнні навуковай кваліфікацыі настаўнікаў, падрыхтоўцы падручнікаў і навучальных дапаможнікаў; умацоўваць і расшыраць садружнасць калектываў навукова-даследчых інстытутаў і вну з агульнаадукацыйнымі школамі і пазашкольнымі ўстановамі.

Міністэрства культуры СССР, Камітэт па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР, творчыя саюзы пісьменнікаў, мастакоў і кампазітараў павінны прыняць меры па стварэнні высокамастацкіх твораў, якія ўзбагачаюць духоўны свет дзяцей, падлеткаў і юнацтва. Узмацніць дапамогу школам у эстэтычным выхаванні вучняў, шырэй прыцягваць дзеячоў літаратуры і мастацтва да кіраўніцтва дзіцячымі творчымі калектывамі, правядзення сустрэч, выставак і канцэртаў для дзяцей.

Камітэту па друку пры Савеце Міністраў СССР прапанавана палепшыць змест, паліграфічнае і мастацкае выкананне падручнікаў; на працягу трох-пяці гадоў выдаць бібліятэчкі педагагічнай літаратуры ў дапамогу настаўнікам, серыі кніг па пытаннях ідэйна-палітычнага, маральнага і прававога выхавання для вучняў і бацькоў.

Дзяржаўны Камітэт Савета Міністраў СССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні, цэнтральныя газеты і часопісы, а таксама рэспубліканскі, абласны і раённы друк заклікааны палепшыць асвятленне пытанняў народнай асветы і перадавога вопыту па навучанні і камуністычным выхаванні падрастаючага пакалення, павысіць якасць публікуемых матэрыялаў, ярка і пераканаўча раскрываць палітычную, эканамічную і сацыяльную важнасць атры-

(Заканчэнне на 14-й і 15-й стар.)

Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі арганізаваў гэтымі днямі для членаў праўленняў саюзаў пісьменнікаў і кампазітараў азнаямленчую паездку па шэрагу раёнаў нашай рэспублікі, якая з'яўляецца своеасаблівым творчым семінарам.

Удзельнікі семінара — больш чым 60 пісьменнікаў і кампазітараў — азнаёміліся са справамі працаўнікоў вёскі Мінскага, Лагойскага, Докшыцкага і Мядзельскага раёнаў, аб чым расказалі ім першы сакратар Мінскага райкома партыі В. М. Каралькоў, старшыня Мінскага райвыканкома В. В. Кальцоў, сакратары Лагойскага райкома партыі М. В. Міхневіч і Л. П. Анішчанка, сакратары Докшыцкага райкома партыі У. Ф. Крышталевіч і Н. І. Усцін, першы сакратар Мядзельскага райкома партыі А. П. Жданюк, старшыня Мядзельскага райвыканкома В. І. Дубовік.

Галоўная ўвага творчых работнікаў у час семінара была звернута на вялікія поспехі хлебаробаў Докшыцкага раёна.

Зусім непазнавальнымі сталі ў апошнія гады землі калгасаў і саўгасаў гэтага раёна. Партыйныя, савецкія, сельскагаспадарчыя органы, партарганізацыі калгасаў і саўгасаў, працаўнікі вёскі правялі велізарную работу па павышэнні культуры земляробства. Дзесяткі тысяч гектараў ворнай зямлі ачышчаны ад каменняў і хмызнякоў, добра апрацаваны і ўгноены.

У выніку на пясчаных і супясчаных землях, якія давалі яшчэ зусім нядаўна 5—7 цэнтнераў збожжа з гектара, пачалі атрымліваць небывалыя ўраджаі. У мінулым годзе ў раёне не было ніводнага калгаса або саўгаса, дзе ўраджайнасць была б менш чым 20 цэнтнераў. А асобныя гаспадаркі атрымалі па 35—41 цэнтнеру збожжа з гектара пасеваў.

Сёлетні другі год пяцігодкі, год 50-годдзя ўтварэння СССР, абяцае быць яшчэ больш ураджайным. Сёння пасевы ў раёне знаходзяцца ў такім стане, што хлебаробы з поўнай упэўненасцю спадзяюцца атрымаць значна вышэй 30 цэнтнераў збожжа з гектара пасеваў. Эфектыўна развіваецца жывёлагадоўля. На аснове мацнеючай эканомікі калгасаў і саўгасаў расце дабрабыт працаўнікоў вёскі.

Калгаснікі і рабочыя саўгасаў Докшыцкага раёна даказалі, што можна хутка і эфектыўна павысіць урадлівасць глеб, іх вопыт падказвае правільны шлях для хуткага ўздыму земляробства ва ўсіх гаспадарках рэспублікі.

Так, год от году робіцца больш шчодрай докшыцкая зямля. Але не толькі і нават не столькі гэтым славіцца цяпер гэты край. Працай чалавека, яго добрымі дзеяннямі на зямлі. Багатыя цяпер тутэйшыя вёскі. І сам чалавек — сапраўдны гаспадар свайго лёсу — непазнавальнаператварыўся. Яго вызначаюць багацце душы, накіраванасць у будучыню, высокая маральная чысціня, калектывізм і сапраўды высокасвядомыя адносіны да працы, высокае пачуццё абавязку перад савецкай маці-Радзімай.

У тым, як жыве сёння докшыцкі селянін, вядома, нічога звышдзіўнага няма. Такая сама наша савецкая рэчаіснасць, якая пераўтварае зямлю і чалавека працы.



Пімен Панчанка і Іван Навуменка гутараць з начальнікам вытворчага ўчастка саўгаса «Бягомльскі» Аленай Іванаўнай Палітыка.

Вопыт працаўнікоў вёскі Докшыцкага раёна прыцягвае і будзе прыцягваць у будучым увагу не толькі работнікаў сельскай гаспадаркі, але і людзей іншых прафесій...

Знаёмства з выдатнымі справамі земляробаў пачалося на граніцы раёна з цікавага расказа першага сакратара Докшыцкага райкома КПБ У. Ф. Крышталевіч. Затым удзельнікі



Удзельнікі семінара на полі саўгаса «Бягомльскі».

# СЛАЎНАЯ ПРАЦА ЗЕМЛЯРОБА

## СЕМІНАР ТВОРЧЫХ РАБОТНІКАЎ У ДОКШЫЦКІМ РАЁНЕ

семінара накіраваліся ў вытворчы ўчастак «Асавы» саўгаса «Бягомльскі». Яны агледзелі вялікі масіў азімага жыта, а таксама густыя нівы яравога ячменю і іншых культур.

— Ураджай расце выдатны,— гаворыць дырэктар саўгаса С. М. Крупенька.— Па ўсім відаць, што гектар пасеваў дасць больш чым 30 цэнтнераў збожжа.

Цёплую, хвалюючую сустрэчу наладзілі пісьменнікам і кампазітарам жыхары гарадскога пасёлка Бягомль. Са словамі, ідучымі ад усяго сэрца, да прысутных звярнуліся народны паэт Беларусі П. У. Броўка, старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР, народны артыст СССР Р. Р. Шырма, пісьменнік М. І. Аляксееў. Тут жа паэты В. Вітка, П. Панчанка, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Е. Лось выступілі з чытаннем сваіх твораў.

У Бягомлі пісьменнікі і кампазітары агледзелі музей народнай славы, усклалі вянкі да помніка загінуўшым воінам Савецкай Арміі і партызанам.

Удзельнікі семінара пабывалі ў калгасе імя Гастэлы. Тлумачэнні даваў яго старшыня А. Ф. Бурмакоў.

Незабыўнай была сустрэча пісьменнікаў і кампазітараў з земляробамі саўгаса «Сітцы». Сакратар партыйнай арганізацыі саўгаса В. А. Хілько назваў вялікай і радаснай падзеяй сустрэчу з творчымі работнікамі. Ён расказаў аб перадавіках гаспадаркі, чыёй працай славіцца родная саўгасная зямля, якая дала ў мінулым годзе па 34,2 цэнтнера збожжа з гектара. Сёлета, спаборнічаючы за дастойную сустрэчу 50-годдзя ўтварэння СССР, хлебаробы абавязаліся атрымаць па 40 цэнтнераў збожжа з гектара пасеваў. І, несумненна, даб'юцца такога ўраджаю!

Сама вёска добра адбудавана. У дабротныя дамы прыйшоў дастатак. Створаны ўсе ўмовы для сапраўды натхнёнай працы, для высокага духоўнага і культурнага жыцця. Усё менш прыкметнымі, амаль няўлоўнымі становяцца грані паміж горадам і вёскай, паміж працаўніком завода і калгаснага або саўгаснага поля.

Толькі некалькі характэрных дэталей. З 20 брыгадзіраў паляводчых і жывёлагадоўчых брыгад у саўгасе «Сітцы» 18 маюць сярэднюю спецыяльную або сярэднюю адукацыю. Больш чым 20 чалавек — жыхароў саўгаса — вучацца ў вну, у тым ліку 7 студэнтаў па пуцёўках гаспадаркі. У гаспадарцы 220 высокакваліфікаваных механізатараў. Непасрэдна на вытворчых участках працуе 160 камсамольцаў. Радзіма высока ацаніла працу паляводаў і жывёлаводаў, узнагародзіўшы 159 чалавек ордэнамі і медалямі. Даярка Е. А. Кучыц двойчы ўдастоена ордэна Леніна.

У саўгасе ёсць дзе культурна правесці час, паслухаць канцэрт, паглядзець кінакарціну, пачытаць цікавую кнігу. Ёсць дом культуры, пяць клубаў, 8 бібліятэк. Чытачамі з'яўляюцца ўсе рабочыя саўгаса. На тэрыторыі саўгаса працуюць тры сярэднія, тры васьмігадовыя і тры пачатковыя школы. 607 дзяцей навучаюцца ў 59 настаўнікаў.

Гаспадарцы прысвоена ганаровае званне «Саўгас высокай культуры земляробства».

На сустрэчы з хлебаробамі ў саўгасе з усхваляванымі прамовамі выступілі першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР І. П. Шамякін, народны артыст СССР Р. Р. Шырма, народны паэт Беларусі Максім Танк, паэты М. Калачынскі, А. Грачанікаў, Э. Агняцвет, Н. Гілевіч, М. Аўрамчык.

У час паездкі па Докшыцкім раёне адказы на многія пытанні ўдзельнікаў семінара, акрамя кіраўнікоў гаспадарак і раёна, давалі старшыня выканкома Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных П. Я. Рубіс, сакратары Віцебскага абкома КПБ А. Я. Калітка, Е. С. Пракоф'ева.

У заключэнне адбылася гутарка ўдзельнікаў семінара — пісьменнікаў і кампазітараў з кіраўнікамі Камуністычнай партыі Беларусі і ўрада рэспублікі.

У ходзе гутаркі кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар Цэнтральнага Камітэта КПБ П. М. Машэраў глыбока і ўсебакова раскрыў наватарскае значэнне вопыту хлебаробаў Докшыцкага раёна для ўсёй рэспублікі, даў высокую ацэнку іх працоўнаму подзвігу. Справы земляробаў Докшыцкага і іншых раёнаў гавораць аб велізарных зменах, якія адбыліся ў духоўным абліччы людзей, аб іх ідэйным і культурным росце. Выхаваныя па законах камуністычнай маралі, працаўнікі вёскі праяўляюць высокую свядомасць і арганізаванасць, здольнасць творча і натхнёна працаваць, пракладваць верныя шляхі да яшчэ большых дасягненняў. Толькі такія людзі могуць зрабіць тое, што яшчэ нядаўна здавалася немагчымым, і дабіцца выдатных поспехаў. Для іх характэрныя камуністычныя адносіны да працы, высокая адказнасць за паспяховае ажыццяўленне намечаных партыяй планаў.

У гутарцы прынялі ўдзел Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. Сурганаў, сакратары ЦК КПБ А. Н. Аксёнаў і А. Т. Кузьмін, першы сакратар Мінскага абкома КПБ І. Я. Палякоў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалеў, старшыня выканкома Мінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных Д. В. Цябут.

Сваімі ўражаннямі аб семінары, аб сустрэчах з земляробамі падзяліліся пісьменнікі, паэты, кампазітары. П. У. Броўка, М. Ц. Лынькоў, Максім Танк, І. П. Шамякін, І. П. Мележ, Р. Р. Шырма, А. В. Багатыроў, А. Я. Макаёнак, І. М. Лучанок, Я. А. Глебаў, І. Я. Навуменка, М. І. Аляксееў, А. А. Зарыцкі, Б. І. Сачанка, Е. Я. Лось у час гутаркі адзначалі, што яны не толькі многае ўбачылі і аб многім даведаліся, але і ўзбагаціліся незабыўнымі ўражаннямі, якія выклікаюць творчы роздум, абавязваюць глыбей уваходзіць і вывучаць новыя з'явы ў жыцці савецкага народа — стваральніка, творцы сапраўдных цудаў на зямлі. Яны выказалі сардэчную ўдзячнасць Цэнтральнаму Камітэту Кампартыі Беларусі за арганізацыю такой цікавай паездкі.

Семінар пісьменнікаў і кампазітараў быў па-сапраўднаму змястоўным і павучальным — такая аднадушная думка ўсіх яго ўдзельнікаў.

БЕЛТА.



Максім Танк выступае перад ра бочымі саўгаса «Сітцы».
Фота Ул. КРУКА.

## СЕМІНАР ЖУРНАЛІСТАЎ ЧАТЫРОХ РЭСПУБЛІК

У Мінску адбыўся міжрэспубліканскі семінар літаратурных рэцэнзентаў і аглядальнікаў газет Беларусі, Латвіі, Літвы і Эстоніі, арганізаваны Саюзам журналістаў СССР. У ім удзельнічала больш чым 50 журналістаў, якія прадстаўлялі прэсу, тэлебачанне і радыё чатырох брацкіх рэспублік. Тэма семінара — «Праблемы суадносін нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў сучаснай савецкай літаратуры і бягучае літаратурнае рэцэнзаванне».

Семінар адкрыў загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалеў. Ён падкрэсліў, што ў год 50-годдзя ўтварэння СССР абмеркаванне праблем, якія стаяць на парадку дня семінара, набывае асаблівае значэнне. Шырокае асвятленне ў прэсе пытанняў інтэрнацыянальнага выхавання працоўных, раскрыццё падзей літаратурнага жыцця з прынцыповых партыйных пазіцый, якімі савецкіх журналістаў узброіла пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы», з'явіцца сур'ёзным укладам работнікаў друку ва ўсенародную падрыхтоўку да паўвекавога юбілею Савецкага Саюза.

З дакладамі на семінары выступілі намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вопросы литературы» Е. І. Асятроў і доктар філалагічных навук, прафесар Н. С. Перкін (Мінск).

Удзельнікі творчага семінара журналістаў абмяняліся думкамі аб стане літаратурнага рэцэнзавання, падзяліліся вопытам. Госці сталіцы Беларусі азнаёміліся з мемарыяльным комплексам «Хатынь», зрабілі паездку ў Брэст.

У рабоце семінара прынялі ўдзел намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ А. А. Тоўсцік, сакратар праўлення Саюза журналістаў СССР Б. Г. Якаўлеў, кансультант аддзела літаратуры і мастацтва газеты «Праўда» В. Н. Хмара.

БЕЛТА.

## МІЖНАРОДНЫ СІМПОЗІУМ МОВАЗНАЎЦАЎ

Руская мова выкладаецца ў 78 краінах свету. Яе вывучаюць больш чым 20 мільёнаў чалавек— людзей самых розных узростаў, прафесій, інтарэсаў Еўропы, Азіі, Афрыкі, Амерыкі.

Аб гэтым гаварылася на міжнародным сімпозіуме мовазнаўцаў «Роля рускай і савецкай літаратуры ў выкладанні рускай мовы як замежнай», які адбыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. У яго рабоце прынялі ўдзел каля 300 савецкіх і зарубежных спецыялістаў.

Міжнародны сімпозіум уступным словам адкрыў намеснік міністра вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР М. І. Красоўскі. Удзельнікаў сустрэчы цёпла віталі віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР К. К. Атраховіч (К. Крапіва), генеральны сакратар Міжнароднай асацыяцыі выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры прафесар В. Г. Кастамараў, рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна А. Н. Сеўчанка.

З дакладамі выступілі прафесар МДУ П. Г. Пуставойт, прафесар БДУ І. Я. Навуменка, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры прафесар Сімеон Русакіеў (НРБ), доктар Багуміл Неўман (ЧССР), дацэнт Базылі Бялаказовіч (ПНР), выкладчык Альбіна Брэйтуайт (Англія), прафесар Вольфганг Бусевітц (ГДР) і іншыя.

БЕЛТА.

СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# КАБ НЕ ЧЫРВАНЕЦЬ АД СОРАМУ...

Колькі разоў з гэтай калонкі рэдакцыя звярталася са своеасаблівымі паштоўкамі да чытачоў з асяроддзя творчых работнікаў! Здараюцца, гаварылася ў тых «паштоўках», у нашым асяроддзі прыкрыя факты: то ананімка адбірае час ад працы, то п'яны чалавек нахаміць калегам, то па сяброўскіх меркаваннях хтосьці дасць высокую ацэнку пасрэднаму твору ў друку...

...У адным з тэатраў рэспублікі рэпеціраваўся новы спектакль. Рэжысёр прасіў паўтарыць мізансцэну яшчэ і яшчэ раз. І выканаўцы, ведаючы, што гэта з-за аднаго з іх калег такое здарылася, старанна паўтаралі заданні рэжысуры. Пакуль той «адзін» не зачапіўся, як кажуць, за суфлёрскую будку...

...Пасля вернісажу мастак запрашае сяброў на таварыскую вячэру. Спачатку ўсё ідзе, як у людзей: тост, шчырае слова калег, яшчэ тост... І раптам нехта, «перабраўшы норму», крыкнуў абразлівае таварышу. Настрой сапсаваны. Узаемаадносіны набылі нечаканы кірунак. «Сустрэнемся на сходзе ў секцыі!» — гучыць пагроза пакрыўджанага...

Што здзіўляе ў такіх выпадках! Тое, што «віноўнік» непрыемных эксцэсаў часцей за ўсё чалавек малады. Ён толькі чытаў кніжкі ды чуў пра колішнія багемныя норавы. А ўжо імкнецца паказаць, што ён, творца, пасля напружанай працы хоча і ўмее «даць разрадку», асушыўшы не адну чарку.

Вось гэтае самаапраўданне, да якога часцей за ўсё такія «героі» звяртаюцца, калі потым просяць прабачыць ім «учарашняе», мабыць, самы вялікі і небяспечны вораг сапраўднай творчай атмасферы ў асяроддзі работнікаў культуры. Якія толькі прычыны ні называюцца! «Даруй, але я быў нервова настроены; даруй, але я тады перахапіў, бо ў мяне непрыемнасці»... Каго такія апраўданні могуць пераканаць! Бадай, толькі таго, хто сарамліва вінаваціць абставіны і адны толькі абставіны ва ўсіх сваіх грахах. Але пераканаць грамадскасць у гэтым цяжка. І ўсё ж...

Мы ўсе так любім «Маленькага прынца» Экзюперы. І чыталі, вядома, той выразны партрэт п'яніцы—памятаеце!

«...Той засеў сярод калекцыі бутэлек — пустых і поўных — і моўчкі паглядаў на іх.

— Я п'ю... Каб забыць...

— Што забыць! — запытаўся Маленькі прынц, які пачаў шкадаваць п'яніцу.

— Забыць тое, што мне сорамна,— прызнаўся п'яніца і звесіў галаву.

— А чаму ж табе сорамна!..

— Сорамна, бо п'янства розум з'ела! — растлумачыў п'яніца і канчаткова змоўк.

І маленькі прынц пайшоў, зусім разгублены. «Дарослыя, безумоўна,— вельмі і вельмі дзіўныя людзі»,— думаў ён...»

Ці не бываем і мы часам такімі паблажлівымі, называючы п'яніц таксама «дзіўнымі», не даючы іх паводзінам грамадскай ацэнкі!

Пастанова ЦК КПСС і рашэнне Савета Міністраў СССР, накіраваныя на барацьбу з п'янствам, яшчэ раз нагадваюць нам, што такія адносіны толькі спрыяюць і патураюць аматарам «зялёнага змія», што грамадства абавязана змагацца супраць алкаголікаў і алкагалізму, са з'явамі, якія атручваюць жыццё грамадзян, наносяць непапраўную шкоду гаспадарцы і культуры.

Гэта — не чарговая кампанія. Гэта свядома распрацаваныя і юрыдычна абгрунтаваныя меры, накіраваныя на рашучае пераадоленне многіх агідных звычак, што бытуюць яшчэ ў нашым жыцці.

Работнікі культуры і тут маюць перад сабой высакародную задачу — мастацкімі творамі (у тым ліку і дакументальнымі жанрамі — фільмамі, эстраднымі фельетонамі, памфлетамі і сатырычнымі апавяданнямі) садзейнічаць поспеху справы, памагаць грамадскасці.

Але не варта забывацца і на тое, што асабісты прыклад артыста або мастака, музыканта ці літаратара мае свой уплыў на чытача, гледача, слухача. Калі ты паэтычным словам адстойваеш хараство чалавечых узаемаадносін, калі жывапісным палатном славіш чысціню пачуццяў, калі здымаеш на экране гімн жывому жыццю, а сам, бывае, з'явішся недзе на сустрэчы з людзьмі «пад хмяльком»,— як цябе будуць чытаць, як будуць адгукацца на твае палотны, як парэкамендуюць твой фільм!..

ДАВАЙЦЕ помніць, што «потым» такі чалавек бывае вымушаны нізка звешваць галаву. Давайце агульнымі намаганнямі створым такую атмасферу, каб у асяроддзі творчых работнікаў ніякі Маленькі прынц не сустракаў ніколі «вельмі, вельмі дзіўных людзей», якія псуюць жыццё і сабе, і ўсім нам. Такі грамадзянскі абавязак кожнага з нас.

Вольга ІПАТАВА

# Я БАГАЦЕЙШАЙ З ТЫХ

БОЛЬШАСЦЬ нашай дэлегацыі я ведала ў твар — з вокладак, кніг, газет, экрана тэлевізара — і ўпершыню вось так, блізка — Роберта Раждзественскага, Сільву Капуцікян, Аліма Кешокава, Ягора Ісаева... Другіх пазнавала па прозвішчах — Мікола Шундзік, галоўны рэдактар «Волги». Уладзімір Воранаў — намеснік галоўнага з «Юности», Алег Шасцінскі — сакратар праўлення Ленінградскага аддзялення Саюза пісьменнікаў СССР. Тут, у вялізнай шклобетоннай будыніне Дамадзедава, сабралася большая частка пісьменнікаў, што прымуць удзел у днях савецкай літаратуры на Алтаі.

Алтайскі край... Які ён? Успамінаюцца расказы пра турысцкую Меку — Манжэрок і легенды аб таямнічым возеры Духаў, рэпартажы пра алтайскі цалінны хлеб і заклапочаныя выказванні вучоных аб ветравой эрозіі ў Кулундзінскім стэпе... Але ўсё гэта — далёкае, нейкае нерэальнае, і хваляванне ад таго, што вось-вось, усяго пяць гадзін лёту, і на свае вочы пабачыш невядомы край — расце і расце. А яшчэ ад таго, што я ў дэлегацыі, здаецца, самая маладая, і як увогуле прымуць там, на Алтаі — перакладаў жа на рускую мову ў мяне зусім мала і, значыць, прыйдзецца чытаць па-беларуску...

Кветкі, кветкі, і сяброўскія поціскі, і натоўп сустракаючых — адчуваеш, што свята савецкай літаратуры пачалося, і што павінна яно быць светлым і радасным, як усякае сапраўднае свята!

А назаўтра, у Барнауле ў Алтайскім крайкоме, упершыню ўсе сабраліся разам — пісьменнікі РСФСР і Грузіі, Прыбалтыкі і Узбекістана, Алтая і Казахстана — усяго каля сямідзесяці празаікаў і паэтаў з 13 саюзных і аўтаномных рэспублік.

Першы сакратар краявога камітэта КПСС А. Георгіеў, расказваючы аб Алтаі, падкрэсліў:

— Правядзенне дзён савецкай літаратуры на Алтаі мы расцэньваем як знак павагі Цэнтральнага Камітэта нашай партыі, Саюза пісьменнікаў СССР да працаўнікоў нашага двойчы ардэнаноснага краю...

ПАДАРОЖЖА ў горны Алтай. Вось, нарэшце, і блакітныя, у паўнеба, горы, і смалістыя, з сібірскай лістоўніцы хаты-пяцісценкі пасёлка Шабаліна — цэнтра маралассаўгаса. Вось і прыгажуны-маралы — карычневыя плямы на неверагодна-зялёным горным лузе. А ў маленькай, з бёрнаў, хатцы, прыслоненыя да сцяны — цяжкія, тлустыя, цёплыя яшчэ панты, з якіх робяць рэдкае дарагое лякарства. Панты — гэта багацце саўгаса. За кожны кілаграм пантаў марала ён атрымлівае 120, а за панты ізюбра да 450 рублёў. Таму так беражліва, нібы крышталёвыя, і кладуць на фурманку вялізныя, падобныя на разгалінаваныя дрэўцы, маралавы рогі. Брыгадзір - маралавод Кліменці Фалееў з гонарам паказвае нам сваю гаспадарку — паўтары тысячы чуйных, з вялікімі бліскучымі вачыма жывёлін. І сам ён — з алтайскім скуластым тварам, загарэлы, з гордай пасадкай галавы, нібы ўліты ў сядло, выглядае як неабходная частка навакольнага дзівоснага пейзажу.

Радок з вядомай песні: «Дружба—гэта Манжэрок!»— давялося не раз успомніць. Тут, у турысцкім лагеры, мы сустрэліся з пісьменнікамі-алтайцамі — Лазарам Кокышавым, Васілём Нечунаевым. Іх першыя кнігі былі і першымі ў гісторыі народа. Алтайцы, айроты, тэлеуты не мелі раней сваёй пісьменнасці. Цяпер на 170 тысяч чалавек — сваё кніжнае выдавецтва, школы на роднай мове, дзве абласныя газеты...

...Многа гадоў спрабавалі людзі пабудаваць мост цераз капрызную, імклівую Катунь. Але не давала пакарыць сябе Катунь — нездарма ж імя яе значыць «гаспадыня». Тады прыйшоў да яе магутны Сартак-бай з сынам. Праклаў ён мост і пачаў прабіваць дарогу, каб людзі маглі падысці да моста. Задумаўся сын — не туды пацягнуў дарогу. Раззлаваўся Сартак-бай, выцягнуў стралу — і прабіў ёю правільны шлях. А потым вырубіў сабе над Катунню каменнае крэсла, каб любавацца на справу рук сваіх. Кажуць, дасюль прыносяць жанчыны кволых сыноў і садзяць іх, голенькіх, на гранітнае крэсла — каб раслі волатамі... Гэта — легенда. Але вось паўтысячакіламетровая траса Чуйскага тракта, пракладзенага па горным Алтаі, скрозь непрыступныя горы — гэта ўжо ява...

Навуковы супрацоўнік Бійскага краязнаўчага музея Барыс Хатміевіч Кадзікаў расказвае нам пра цуды Алтая і сярод іх успамінае незвычайнае па сваіх якасцях рэчыва — алтайскае мумiё, — адходы горнай мышы-палёўкі. «Дык жа дактары пакуль што не спяшаюцца з вывадамі. І ўвогуле кажуць, што гэта — містыка, таму што доследы яшчэ не закончаны», — скептычна заўважае нехта.

Барыс Хатміевіч з гарачнасцю пералічвае выпадкі, калі з дапамогай мумiё вылечвалі язвы, раны, нават хваробы печані, называе рэцэпт прыгатавання мумiё, і той-сёй не вытрымаўшы, пацíху запісвае яго...



На ўспамін аб Алтаі. Злева направа—Марк Сяргееў (Іркуцк), Вольга Іпатава (Беларусь), Ірына Стралкова (Масква), Вальдэмар Бранкс (Латвія).

...Імчаць па горных дарогах, па Чуйскім тракце цёмна-чырвоныя фірменныя аўтобусы «Алтай». Унізе, скрозь тонкія, высачэзныя сосны — белыя буруны горнай Семані, уверсе над блакітным Бабарганам — нібы зачэпленая за край гары шэрая хмарка. Быць непагодзе.

А ў нашым аўтобусе — ужо невялічкі калектыў. Спяваем песні, жартуем. Звяртаюся да свайго суседа, сібірскага паэта Марка Сяргеева, з просьбай — праспяваць песню з кінафільма «Горнае Сонца Алтая ў тваім рукзаку», які мы глядзелі ў Манжэроку, — фільм здымаўся па яго сцэнарыі.

— З адной умовай,—смяецца Марк, — калі ў адказ пачую беларускія песні. А то ўкраінскіх ведаю шмат, а беларускай — ніводнай.

Збянтэжылася: якая з мяне спявачка?! Але... гул матораў і сусед дапамагае — і вось мы спяваем «Колькі ў небе зор», а потым «Ой, бярозы ды сосны», і яшчэ...

А ў Бійску, калі перасаджваліся на другія аўтобусы, неяк разгаварылася з народным паэтам Башкірыі Мустаем Карымам.

— О, у мяне многа сяброў у вас, у Мінску. Заўсёды бываю там з задавальненнем. Такі цудоўны горад, і людзі цудоўныя, — гаворыць ён.

— Перадавайце прывітанне Мінску, майму калегу Андрэю Макаёнку, — сказаў Мустай Карым у канцы размовы. — Мне вельмі падабаецца Беларусь...

Забягаючы ўперад, магу сказаць, што на кожным кроку адчувала гэтыя асаблівыя — сяброўскія, братэрскія — адносіны да нашай зямлі. Словы павагі, захаплення, шчырай любові...

# ШЧЫРА ЗАПРАШАЕМ, АРТЫСТЫ З МАЛОЙ БРОННАЙ!

ДА ГАСТРОЛЯЎ У МІНСКУ МАСКОЎСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА НА МАЛОЙ БРОННАЙ

ЛЯ АФІШ гэтага тэатра спыняюцца, чытаюць, узважваюць, што выбраць для прагляду. І не таму, што трэба шукаць цікавае,—не, рэпертуар артысты з Малой Броннай прывязуць сапраўды разнастайны!—а каб спланаваць наперад тыдні і дні: хацелася б паглядзець ўсё, што масквічы пакажуць у ліпені. Ну, амаль усё. Цікавыя назвы, заўсёды прываблівыя і даўно знаёмыя пісьменніцкія імёны, і драматургі, чые творы на мінскай сцэне ніколі раней не ставіліся,—мазаіка стракатая.

Зразумела, ёсць нешта асабліва прыемнае ў тым, што Маскоўскі тэатр на Малой Броннай адкрые гастролі ў сталіцы Беларусі спектаклем па п'есе А. Макаёнка — гэты калектыў першым у Маскве паказаў «Трыбунал». І адразу спектакль прыцягнуў увагу шырокай грамадскасці і крытыкі. Адзін з водгукаў на прэм'еру дае тлумачэнне асаблівасцям і значэнню «Трыбунала» на Малой Броннай (часопіс «Театр», № 10 за 1971 год): «...Народная п'еса ў тым высокім сэнсе гэтага паняцця, калі гаворка ідзе не аб масавых народных сцэнах, якія нічога асабліва істотнага не рашаюць у праблеме народнасці, але аб народным характары, аб яго своеасаблівасці, аб яго сіле, супрацьпастаўленай шматлікай сіле нашэсця»,— так прачытаў трагікамедыю тэатр (рэжысура А. Дунаева і Л. Дурава).

**Самым выдатным акцёрскім дасягненнем прызнаецца выкананне галоўнай ролі ў спектаклі: Цярэшку Калабка іграе Л. Дураў. І зноў жа спашлемся на думку крытыка, які называе выступленне артыста «святам акцёрскага пераўвасаблення, калі акцёр паглыбляецца ў драматычны характар, арганічна зліваючыся з яго лёсам, з яго паводзінамі... І чым менш Дураў імкнецца падкрэсліваць рамантычныя, бясстрашныя рысы ў натуры свайго героя, тым больш верыш ў яго сапраўднасць; тут няма халаднаватасці помніку, ёсць чалавечая шчырасць; спакваля, непрыкметна, як бы мімаволі мы далучаемся да подзвігу...»**

Зразумела, мінчанам будзе не толькі цікава пазнаёміцца з арыгінальнай трактоўкай п'есы беларускага аўтара на рускай сцэне, а і параўнаць маскоўскі спектакль з «Трыбуналам» у купалаўцаў і ў коласаўцаў. Такое ўспрыманне твораў мастацтва наогул плённае і карыснае, бо ўзбагачае і пашырае нашы эстэтычныя далягляды.

Тэатр на Малой Броннай набыў адметнае творчае аблічча. Мабыць, перш-наперш гэта залежыць ад яго рэжысуры. Галоўны рэжысёр

# ПРЫЙШЛА ДАРОГ...

бові; працяглацсь авацый у зале, варта было сказаць, што тут ёсць чалавек з Беларусі... І радавала гэта, і ўзрушала да слёз, і бянтэжыла — велізарная адказнасць клалася на плечы!

КАЛІ горны Алтай быў для нас больш пазнавальнай паездкай, бадай што экскурсіяй, то наступны маршрут (нумар чатыры, як ён называўся афіцыйна, а ўсяго было шэсць) — быў рабочым, напружаным і чоткім амаль да хвілін.

Выступленні — на палявым стане, у чырвоным кутку жывёлагадоўчай фермы, у саўгасным ці раённым палацы культуры. Размовы і сустрэчы з механізатарамі, даяркамі, партыйнымі работнікамі.

Аграмадныя, тысячакіламетровыя прасторы цаліны. Раней вятры імчалі па ёй, свабоднай... І — пустой. Калі пачалі ўздымаць цаліну, яны, вятры, сталі злейшымі ворагамі — вывятрывалі самыя лепшыя, ураджайныя пласты зямлі, ператваралі яе ў пыл. Людзі садзілі лес — сонца выпальвала кволыя дрэўцы, зіма вымарожвала. І цяпер бярозы, што купкамі атуляюць землі Паўлаўскага раёна, каржакаватыя, на схілах — скрыўленыя; адчуваеш фізічна, як стрымлівалі яны ветравы напор...

Цяпер ім лягчэй. Гэтулькі лесу ўзнялося навакол! Адзін Мамантаўскі мехлясгас павінен за бягучую пяцігодку пасадзіць 1700 гектараў лесапалос. Ужо пасаджана 900. Палям зацішней і ўтульней. Ды і ворыва цяпер іншае — безадвальнае, ветру цяжэй распыліць глебу, узняць у паветра. А лясы растуць і растуць. Кожны год высаджваюць сотні гектараў. І калі ў Паўлаўску яшчэ пуставата, то ў суседнім Мамантаве сады аж выпіраюць з-за агароджаў, кветкі ўсюды, дзе можна іх садзіць.

Калі ў саўгасе «XXIV партз'езд» нам з гонарам паказваюць 120 гектараў садоў, гэта нібы не здзіўляе. Але яшчэ раз разумееш, што гэта значыць у параўнанні з нічым. А цяпер яблыні — сланцавыя, праўда — даюць яблыкі. Свая, алтайская садавіна на стале. Сапраўды, гэта цуд!

Гэтак жа, як і пшаніца. Я і не ведала, што кулундзінскае зерне — адно з лепшых у свеце па якасці; ідзе яно як паляпшальнік азімых, і нашы, беларускія караваі, і італьянскія спагецці без яго не абыходзяцца.

...Вялізны элеватар відзён здалёку. Вось адкуль ідзе ў Польшчу, Чэхаславакію, В'етнам, Карэю, ГДР, алтайскае збожжа. Не ўборка зараз, а грузавікі ўсё роўна едуць і едуць у яго вароты. Пяцьдзесят тысяч тон зерня змяшчае элеватар! Цяжка ўявіць такія лічбы. Але стаіш, глядзіш, як згружаецца зерне, і сілуэт элеватара, падобны на цукровы завод у Скідэлі, становіцца сімвалам краю, дзе кожны школьнік ведае цану каласку, дзе вырошчванне хлеба сапраўды пастаўлена як прамысловасць, як здабыча вугалю, як выплаўка металу... Рэдкія на тысячы гектараў пасёлкі — зусім маладыя і па сваім ўзросце, і па ўзросце жыхароў. Кожны, хто можа працаваць, ідзе на ферму, на поле. Людзей не так многа, і можа таму кожны з іх адчувае сваю значнасць, і стараецца працаваць за дваіх, а то і за траіх. У саўгасе «Камсамольскі» Паўлаўскага раёна — 20 тысяч гектараў ворнай зямлі. Працуе на ёй тысяча чалавек. (Кіруе — 28 спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй, і за апошнія 10 гадоў адсюль паехаў усяго адзін спецыяліст, ды і то — з-за хваробы). У мінулым годзе планавалі здаць дзяржаве 80 тысяч цэнтнераў збожжа, а здалі 190 тысяч. Заробак у мужчын-механізатараў склаў па 256, а ў жанчын — па 450 рублёў у сярэднім за месяц (я правільна назвала лічбы. Было прыемна, што жанчыны, аказваецца, і тут перамагаюць).

Хацелася больш бачыць, параўноўваць — а як у нас? Тым больш, што параўнанні сыпаліся самі — многія з кіраўнікоў бывалі, аказваецца, у Беларусі, а першы сакратар Мамантаўскага райкома партыі Фёдар Дзям'янавіч Іванкоў вызваляў у сорак чацвёртым Мінск, а ў мінулым годзе быў у рэспубліцы, і нават на маёй Гродзеншчыне. І таму, расказваючы аб ураджайнасці, ён час ад часу ўстаўляе: «У беларусаў так робяць». У стале яго ляжалі запісы той паездкі — і нават праект магазіна-рэстарана з Карэліч. Даведаўшыся аб гэтым, я ўпотай блаславіла свае тэлевізійныя камандзіроўкі па Гродзеншчыне, па яе калгасах і саўгасах, таму што цяпер можна было нават адказваць на пытанні, а яшчэ больш — разумець, што за некалькі гадоў зроблена тут. Дарэчы, тут, на Алтаі, мне часта даводзілася сустракаць землякоў, і нават калі на свяце «Чырвонай баразны» даручылі павязваць стужкі пераможцам конкурсу механізатараў Каменскага раёна, і я, чырвоная ад хвалявання, ніяк не магла завязаць першую стужку, высокі, статны пераможца Валодзя Сухарукаў, нахіліўшыся з драўлянага п'едэстала, весела шапнуў: «Не бойся, зямлячка!»

Дружба... І гэтае слова я нібы ўпершыню па-сапраўднаму зразумела тут, на Алтаі. Калі ў суседнім, Тальменскім раёне, на такім жа свяце сейбітаў Сяргей Іванавіч Грахоўскі дастаў шкатулку з зямлёй Хатыні і пайшоў па полі, а механізатар калгаса «Шлях Кастрычніка», удзельнік вызвалення Беларусі Д. Скабелкін заворваў яе, так што алтайская зямля навек пароднілася з нашай беларускай — слёзы былі на вачах у



Зямля з Хатыні аднолькава дарагая ім абодвум — паэту Сяргею Грахоўскаму, які прывёз яе на Алтай з Беларусі, і Андрэю Цыгулёву, першаму сакратару Тальменскага РК КПБ.

людзей. І мемарыяльны знак, што адразу ж паставілі на тым месцы — хіба не знак вялікай пашаны да подзвігу беларусаў і ўсіх народаў нашай шматнацыянальнай краіны, у гады Вялікай Айчыннай вайны, не жаданне парадніцца?

МЫ СТАМЛЯЛІСЯ, вельмі стамляліся на прапыленых стэпавых дарогах, а адчуванне свята не праходзіла, наадварот, узмацнялася. Можа, ад вялікай гасціннасці людзей, ад іх цеплыні? А можа і ад таго, што сама наша група была нібы ўвасабленнем гэтага слова — Дружба? Узбек Эгам Рахім, латыш Вальдэмар Бранкс, барнаулец Генадзь Панкоў, масквічы Сяргей Сяргеевіч Смірноў, Ірына Ракша і Ірына Стралкова — мы адчувалі сябе харошым, шчырым калектывам: разам адпачывалі, радаваліся, хваляваліся адзін за аднаго ў час выступленняў.

Я багацейшай вярнулася з тых дарог. Таму што па-новаму ўбачыла сваю зямлю, таму што пазнаёмілася і шчыра палюбіла другую.

Застануцца ў душы назаўсёды — уражанні ад сустрэч, ад людзей, якія робяць сённяшнюю савецкую літаратуру, новыя сябры і жаданне нешта здзейсніць самой... І на адрасах — вершы, і эпіграмы, і санеты нават. І пішацца — як адказ, як роздум —

**А я ізноўку на сваёй зямлі.**
**На Беларусі пачалася**
**касавіца,**
**І пахнуць мёдам ціхія палі,**
**бор прапах мядзянаю**
**жывіцай,**
**Я багацейшай з тых прыйшла**
**дарог...**

# ЗЫЧЫМ ПОСПЕХУ!

**ПРА ДЫПЛОМНЫЯ РАБОТЫ ВЫПУСКНІКОЎ МАСТАЦКАГА ФАКУЛЬТЭТА ТЭАТРАЛЬНА-МАСТАЦКАГА ІНСТЫТУТА**

ВОСЬ і закончаны інстытут... Абаронены дыпломы на званне мастака — наперадзе нялёгкі, але цікавы шлях у вялікае мастацтва!

Учора студэнты, а сёння ўжо самастойныя людзі, якія павінны адказваць за сваю творчасць, за свой мастацкі плён,— маладыя хлопцы і дзяўчаты, выпускнікі мастацкага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ўліліся ў вялікі атрад беларускіх мастакоў.

З чым жа яны пачынаюць сваё жыццё ў мастацтве, што нясуць людзям, што іх хвалюе?

Сёння пра гэта можна меркаваць па тых дыпломных работах, якія быццам візітныя карткі сведчаць і аб грамадскай сталасці, і аб майстэрстве маладых творцаў.

Шэсць жывапісцаў, чатыры графікі, пяць скульптараў, пяцьдзесят восем мастакоў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва прад'явілі свае «візітныя карткі» Дзяржаўнай камісіі.

Канечне, не заўсёды дыпломная работа, нават тая, за якую малады мастак атрымаў «выдатна», верная зарука яго шчаслівага лёсу ў мастацтве. Хутчэй за ўсё яна пакуль сведчыць толькі аб яго творчым патэнцыяле. Але сведчанне гэтае дастаткова аб'ектыўнае і дакладнае.

Таму сёння, мы з некаторай трывогай мусім сказаць, што не ўсе работы, якія даюць праза маладым называцца мастакамі, узнімаюцца да ўзроўню сапраўднага мастацтва.

Асаблівы неспакой выклікаюць работы маладых жывапісцаў і графікаў, у якіх, за рэдкім выключэннем, яшчэ не адчуваецца маладога запалу, дзёрзкасці, упэўненасці ў сваіх сілах, свабоднага валодання тэхнікай.

Прыемна, што сярод работ скульптараў, ёсць «сапраўдныя», такія, што дазваляюць з упэўненасцю сказаць аўтарам: «У вас наперадзе шмат цікавага. Будзьце вартыя свайго таленту!».

Сярод гэтых работ перш за ўсё хацелася б адзначыць групу «Сям'я бацькі Міная» Г. Гаравой, якая будзе ўстаноўлена на месцы трагічнай гібелі жонкі і дзяцей слаўнага партызанскага камандзіра, і праект помніка лётчыкам «Нармандыі—Нёман» А. Крахалёва.

Шмат цікавых работ паказалі і мастакі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Нядрэнна справіліся са сваёй задачай вучні дацэнта Г. Вашчанкі манументалісты В. Мартынчык (эскіз роспісу для дома ветэранаў) і В. Нямцоў (эскіз вітража па матывах Я. Купалы для рэстарана «Папараць-кветка»).

Дыпломная работа Н. Рачкоўскай (дэкаратыўныя керамічныя краты) назаўсёды застанецца ў родным інстытуце, яна будзе ўпрыгожваць вестыбюль новага корпуса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

Парцьерныя, плацяныя тканіны, дываны, роспісы, якія прадставілі маладыя выпускніцы аддзялення мастацкага мадэліравання тканіны, акрамя сваіх мастацкіх якасцей, якія былі станоўча адзначаны Дзяржаўнай камісіяй, маюць і яшчэ адну — амаль усе яны запушчаны ў вытворчасць і ў хуткім часе з'явяцца на прылаўках магазінаў.

# «ЛІДЧАНКА» Ў ВІЛЬНЮСЕ

Рэспубліканскае свята народных ансамбляў, прысвечанае 50-годдзю ўтварэння СССР, пачалося 28 чэрвеня ў братняй Літве.

У старажытны Вільнюс з'ехаліся госці з Эстоніі, Латвіі, Украіны, Ленінграда, Калінінграда, Польскай Народнай Рэспублікі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Міністэрства культуры Літоўскай ССР запрасіла на свята і народны ансамбль песні і танца «Лідчанка».

— Гэта не першая наша сустрэча з літоўскімі сябрамі, — сказаў мастацкі кіраўнік ансамбля В. Аламаха. У маі да нас у Ліду прыязджала канцэртная брыгада з Вільнюса. Зараз мы — іх госці. Наш ансамбль прыме ўдзел у свяце дружбы, якое будзе праходзіць у Вільнюсе і Каўнасе. Мы запрошаны выступіць і на традыцыйным свяце песні. Гэта шчыра радуе нас, таму што такая паездка не проста запрашэнне ў госці, а і своеасаблівы конкурс, хаця і неафіцыйны Кожны ансамбль захоча выступіць як мага лепей

---

А. Дунаеў, А. Эфрас і А. Ганчароў (ён цяпер узначальвае Акадэмічны тэатр імя Ул. Маякоўскага і з поспехам развівае дасягненні выдатнага майстра Мікалая Ахлопкава) — гэта розныя мастакоўскія індывідуальнасці. І ўсе разам яны складаюць арыгінальнае суладдзе шукальнікаў, якія ніколі не ідуць пратаптанымі сцежкамі, лічаць самым небяспечным у тэатры руціну, рашуча адкідаюць агульнавядомае і заштампаванае. З гэтым творчым настроем яны ўступаюць у садружнасць з драматургамі, «гартаюць» старонкі класікі, працуюць з артыстычнай трупай.

**Нездарма не адна і не дзве пастаноўкі гэтых рэжысёраў выклікалі і выклікаюць і захапленне, і спрэчкі-дыскусіі. Дастаткова спаслацца на прыклад «Рамеа і Джульеты» або «Брата Алёшы» (паводле рамана «Браты Карамазавы»), на гэтыя арыгінальныя спектаклі, дзе Шэкспір і Дастаеўскі загучалі па-тэатральнаму свежа і шмат у чым нечакана. І яшчэ, мабыць, мінчане, паглядзеўшы ў выкананні і трактоўцы тэатра на Малой Броннай «Шчаслівыя дні нешчаслівага чалавека» і «Казкі старога Арбата» А. Арбузава, адчуюць патрэбу абмеркаваць тыя хвалюючыя праблемы, якія заўсёды ставіць гэты драматург, заклікаючы і тэатр па-мастацку зацікаўлена прыглядзецца да нашага сучасніка, што ў змаганні з самім сабой, у тонкім і дыялектычным працэсе самавыхавання, пад ударамі гора і пры святле радасці гартуе сваё грамадзянскае і асабістае «я».**

Надзённыя тэмы і жывыя характары нашага сучасніка складаюць змест і дух зусім арыгінальна сыгранага артыстамі з Малой Броннай «Чалавека з боку» (п'еса І. Дварэцкага, рэжысура А. Эфраса) і па-свойму лірычнай, расквечанай народным гумарам і прасякнутай грамадзянскім роздумам пра месца маладога чалавека ў віры сённяшніх жыццёвых канфліктаў п'есы грузінскага пісьменніка Н. Думбадзе «Не хвалюйся, мама!» у пастаноўцы рэжысёра Р. Лордкіпанідзе.

«Візіт дамы» швейцарскага драматурга Ф. Дзюранмата ідзе на Малой Броннай шэсць гадоў. Гэта лепшая пастаноўка п'есы ў нашай краіне. Гнеўны сарказм і ваяўнічы пафас, накіраваны супраць буржуазнай маралі, увасобіліся і ў завостраным агульным малюнку спектакля (рэжысура А. Ганчарова), і ў выкананні галоўнай ролі Клары Цаханс'ян адной з самых папулярных сёння артыстак Масквы Л. Сухарэўскай. Яе мультымільянерка-дама выглядае і пачварнай, і па-свойму дасціпнай, і жорсткай, і прагнай да жыцця. З яе і смяешся, яна і насцярожвае. Маленькі гарадок Гюлене (што ў перакладзе з дыялекта азначае «гной»), дзе Клара са сваімі грашыма і дзесяткам мужоў даводзіць абывацеляў-правінцыялаў амаль да вар'яцтва, набывае сімвалічныя рысы цяперашняга капіталістычнага свету наогул.

**Пабачым мы Л. Сухарэўскую і ў ролі славутай парыжскай зоркі эстрады Эдзіт Піяф (дарэчы, выканаўца ролі з'яўляецца і адным з аўтараў драмы «На бале ўдачы», напісанай паводле мемуарнай споведзі спявачкі). Калі аднойчы яе спыталі, чаму яна — жанчына і актрыса зусім іншага лёсу, узросту, перакананняў —марыць сыграць гэты складаны і, адначасова, як бурштын, прасветлены характар, Лідзія Паўлаўна адказала: «Яна згарэла!» Вядучай актрысе тэатра на Малой Броннай наогул уласцівае такое адчуванне чалавека — апантанага, захопленага, неўтаймаванага ў сваім імкненні да шчасця (а кожны разумее, што такое шчасце, у адпаведнасці са сваёй эмацыянальнай і грамадскай «адукацыяй»). Застаючыся заўсёды сабой — Л. Сухарэўскую, падкрэсліваюць даследчыкі яе творчасці, пазнаеш пад любым грымам,—яна і ў сцэнічныя вобразы ўносіць нешта «ад сябе», ад сваёй натуры актрысы-грамадзяніна. Спасылаючыся на яе ж словы, крытыка лічыць, што і сапраўды творчае крэда гэтага майстра можна выказаць словамі: «Мастацтва ўласцівае чалавеку як нейкі інстынкт дабрыні. І калі гэты інстынкт у ім руйнуецца, чалавек робіцца амаральным...» Знаёмства з такім артыстам — радасць...**

А трупа нашых гасцей багатая на яркія індывідуальнасці. Дастаткова назваць хоць бы імёны Б. Ценіна, Б. Кудраўцава, Л. Бранявога, Л. Дурава, А. Якаўлевай, А. Дзмітрыевай, А. Грачова, Г. Сайфуліна, Л. Перапёлкінай (хай даруюць тыя, каго ў спісе не ўспомнілі на гэты раз!), каб шматлікія прыхільнікі сцэнічнага мастацтва і кіно прыгадалі свае ранейшыя сустрэчы з імі, прачытанае пра іх на старонках крытычнай літаратуры, выступленні гэтых акцёраў на блакітным экране тэлебачання і ў мастацкіх фільмах. А прыгадаўшы, захацелі сустрэцца зноў. Сустрэцца так, як гэта магчыма толькі ў тэатры,— непасрэдна, калі бачыш жывы бляск вачэй, чуеш пераліўы голасу і, здаецца, як б'ецца сэрца героя сцэнічнага твора.

Заўтра, 1 ліпеня, «Трыбуналам» А. Макаёнка і «Чалавекам з боку» І. Дварэцкага госці з Масквы пачынаюць ліпеньскія гастролі ў сталіцы Беларусі. Яны прысвячаюць іх святу краіны — 50-годдзю ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Шчыра запрашаем, артысты з Малой Броннай! Зычым поспеху!

*3 ЛІПЕНЯ—ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ*

# ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ВАСІЛЬ!

Сяргей БАБРОНАК.

НЯМНОГА ІХ ЗАСТАЛОСЯ ў жывых, салдат Брэсцкага гарнізона. Хто спачывае вечным сном у брацкай магіле крэпасці-героя, каго ўкрывае безыменны ўзгорак на доўгім шляху нашым да перамогі; каго, змучанага старымі ранамі і болямі, дачасна забрала смерць у нядаўнія дні...

Нямнога іх засталося ў жывых.

Таму такая жаданая і такая хвалюючая сустрэча з таварышам твайго салдацкага юнацтва. Асабліва, калі надараецца яна праз 30 гадоў пасля вымушанай разлукі з чалавекам, якога ты даўно лічыў загінуўшым.

Расталіся мы ў суботу, 21 чэрвеня 1941 года, у Брэсцкай крэпасці, на зямлі беларускай, што стала для нас роднай навекі. А сустрэліся нечакана толькі нядаўна ва ўкраінскім старажытным горадзе Львове. У маім Львове.

Трэба ж такому здарыцца: больш за два дзесяткі гадоў жыць у адным горадзе, хадзіць аднымі і тымі ж вуліцамі, мець агульных знаёмых, магчыма, стаяць побач на адной трамвайнай пляцоўцы і не пазнаць, не адчуць хаця б, што побач—твой баявы пабрацім, таварыш па горкіх і слаўных выпрабаваннях вайны. Ён чуў, што ў Львове жыве ўдзельнік абароны Брэсцкай крэпасці, але прозвішча маё нічога яму не гаварыла: ён не ведаў яго і тады ў Брэсце. Там я для яго быў проста малодшы сяржант-пагранічнік.

Канечне ж, ён чуў выступленні па тэлебачанні Сяргея Сяргеевіча Смірнова, ведаў аб пошуках герояў абароны Брэста. Але гэта ж—герояў, а ён, ён проста ваяваў, як усе, каго вогненны смерч вайны заспеў над Бугам. Так думаў гэты сціплы і мужны чалавек і маўчаў. Неяк так склалася, што ўпершыню пасля вайны пабываў ён у Брэсцкай крэпасці толькі ў канцы мінулага лета. У музеі ўбачыў фатаграфію, пажоўклую ад часу, і подпіс да яе: «Група пагранічнікаў 9-й пагранзаставы. 1941 год».

— Дык гэта ж ён!.. Знаёмы малодшы сяржант!

Бадай, гэта ўпершыню не я, а мяне адшукалі. Што ж, ад гэтага радасць сустрэчы не стала меншай. Спяшаюся прадставіць яго, шчаслівы назваць яшчэ адно, новае імя салдата Брэсцкага гарнізона: Цюмнеў Васіль Кузьміч.

...У 1940 годзе з Варонежскай вобласці быў прызваны ў армію знатны трактарыст, брыгадзір трактарнай брыгады Васіль Цюмнеў.

Лета 1941 года. Брэсцкая крэпасць. 98-ы асобны артылерыйскі процітанкавы дывізіён. Курсант вучэбнай батарэі, выдатны наводчык-артылерыст, групкамсорг узвода—усе ступені росту і салдацкай узмужнеласці.

У суботні вечар 21 чэрвеня ў саставе лепшага гарматнага разліку выязджае на акруговыя вучэнні, прызначаныя на нядзелю.

— Шчасліва, Васіль! Не падвядзі!— крычу я ўслед.

— Да панядзелка!—махае мне рукой Васіль, мой сусед і таварыш з нядаўніх дзён. Хто з нас мог тады нават падумаць, што расстаемся мы на доўгія гады і сустрэнемся ўжо пажылымі, пасівелымі людзьмі.

У дывізіі заставаліся камандзір батарэі Хавэр, лейтэнант Бастэ і Васільеў, палітработнік Зелянёў, сяржанты Паўлюкоў і Лабкасаў, курсанты Арцёмаў, Сцівіцкі, Заікін, Шырокаў...

Запомніце гэтыя імёны. Да цяперашняга часу на абелісках у гонар загінуўшых абаронцаў цытадэлі Брэсцкай крэпасці замест іх стаялі словы:

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



Лявон Зяблік — заслужаны артыст БССР С. Хашкевіч.



Маці — народная артыстка БССР С. Станюта.



Старац — народны артыст СССР Л. Рахленка.



Сымон — артыст В. Белахвосцік.



Зося — артыстка В. Кліменка.



Данілка — артыст Ю. Лясны.

**Напярэдадні гастролей у Маскве Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы пазнаёміў грамадскасць беларускай сталіцы з новым спектаклем: адбылася прэм'ера «Раскіданага гнязда». Драма, створаная Янкам Купалам у 1913 годзе, ставілася Першым БДТ, як раней называўся тэатр, у 1921 годзе. Іграла яе і трупа коласаўцаў у 1951 годзе. Цяперашні спектакль купалаўцаў ідзе ў пастаноўцы рэжысёра Б. Луцэнкі з музыкай кампазітара С. Картэса ў дэкаратыўным афармленні Б. Герлавана.**

ДЫСКУСІІ

*На парадку дня:*

ПРАБЛЕМЫ ПАЭЗІІ

# «...НА ШЫРЫНЮ

Юрась СВІРКА

У «ДЫЯЛОГУ аб паэзіі» В. Бечык і А. Вярцінскі («Лім», 9 чэрвеня 1972 г.) з трывогай (для гэтага ёсць прычына) паглядзелі на сённяшні стан нашай паэзіі, кінулі заклік паэтам — «змяніць свой вузенькі настрой на шырыню людскіх настрояў» (П. Глебка).

«Дыялог» у асноўным скіраваны супраць шэрых, бяздумных твораў паэзіі, якія не нясуць грамадзянскага зараду. Калі не лічыць шэсць вершаў, якія аднесены В. Бечыкам да залатога фонду грамадзянскай лірыкі, наша паэзія як бы збяднела на такія творы і буксуе на адным месцы. Выходзіць, што вялікі атрад нашых паэтаў нічога не пісаў і не піша вартага ўвагі крытыкаў і чытача. В. Бечык, няйначай, каб ажывіць дыскусію, зрабіў выснову, што наш сучаснік у творах паэтаў «не існуе ў сваім рэальным побыце: не робіць ранішняй зарадкі, не ездзіць на грамадскім транспарце, не гаворыць па тэлефоне, не стаіць у чарзе, не мае жыллёвых клопатаў, не хвалюецца за сваю працу, нікога не сустракае і не праводзіць»...

Ці не занадта многа пунктаў для аднаго лёгкакрылага Пегаса? Не ведаю, як наконт... асвятлення ў нашай паэзіі ранішняй зарадкі, а да ўсіх астатніх праблем, пералічаных крытыкамі, можна знайсці паэтычную ілюстрацыю.

Следам за адным з аўтараў «Дыялогу» і я перачытаў вершы за мінулы год у часопісе «Полымя», але ж не перапблытаў Броўку з Танкам, Звонака з Бачылам, Кірэенку з Калачынскім, Бялевіча з Віткам, Аўрамчыка з Пысіным, Астрэйку з Грахоўскім, Бураўкіна з Сіпаковым. У кожнага з іх свой голас, свае тэмы, свой падыход да іх. І тут мне падумалася, ці не выносім мы, паэты, выступаючы ў ролі крытыкаў, меркаванні з перабольшаным адчуваннем выключнасці свайго вопыту.

У «Дыялогу» закранута праблема першай кнігі. Яна важная як для яе аўтараў, так і для будучыні нашай паэзіі. Шкада, што толькі з гадамі мы заўважаем і адчуваем паспешлівасць не пісаць, а друкавацца. Будзем шчырымі, першыя выступленні ў друку, за рэдкім выключэннем, пазней лічым няспелымі. Спашлюся на роздум Сяргея Чакмарова: «Спачатку я хачу жыць, а потым пісаць пра жыццё. Спачатку любіць, а потым пісаць пра любоў.

Першую палавіну жыцця буду пісаць для сябе, другую палавіну—для ўсіх».

Калі патрабавальна паглядзець на сённяшнюю творчасць трыццацігадовых (і не толькі іх), то «першая палавіна жыцця» расцягваецца. Чалавек маўкліва выпускае кнігі, уваходзіць у «другую палавіну жыцця», а крытыкі заўважаюць яго толькі тады, калі спатрэбіцца адмоўны прыклад, хаця ў набытку аўтара ёсць і такое, на што можна і спаслацца.

Не смялей бяруцца крытыкі і за разгляд твораў паэта, якіх сёння ўжо не назавеш маладымі. Відаць, прасцей пісаць пра масцітых, ацэньваючы якіх не боязна карыстацца высокімі эпітэтамі. А з маладзейшымі — бяда. Тут патрэбна стрыманасць (хаця б не захваліць), а то, чаго добрага, зазнаецца. І пасля першых станоўчых абзацаў у рэцэнзіі абавязкова з'явіцца традыцыйна-шкадавальнае «але»... Змяніўся тон артыкула, змяняецца і фарба: светлую выцясняе цёмная.

Не першае дзесяцігоддзе знаходзяцца на ролі пасынкаў Хв. Жычка, Г. Кляўко, М. Арочка, І. Калеснік, К. Цвірка, Ул. Паўлаў, Р. Тармола, В. Макарэвіч, М. Рудкоўскі... Хто з іх пачуў пра сябе справядлівае слова ад аўтарытэтнай крытыкі? Тут я маю на ўвазе не зняважлівы водгук, што звычайна трымаецца на промахах паэта, на некалькіх уколах, а грунтоўны разбор яго кніг. Не заўсёды размова крытыка была б лагоднай, але яна скіроўвала б аўтара на шырокую дарогу творчасці, выводзіла б з часовага застою і душэўнай заспакоенасці. Думаю, што на гэта не пакрыўдзілася б ганаровая абойма паэтаў, на якіх абапіраюцца крытыкі, калі заходзіць размова пра паэзію.

Хочацца сказаць некалькі слоў пра натуральнасць, глыбіню пачуццяў, перажыванняў і жыццёвую аснову ў вершах маладзейшых таварышаў.

Генадзь Тумас прызнаецца:

**Вайны я не помню,**
**не помню вайны,**
**ды сню пра яе чамусьці сны.**

Веру ў яго здольнасці, але ці суджана паэту сказаць запамінальнае

# І АБАВЯЗАК, І НАТХНЕННЕ


Любоў ГАРЭЛІК,

навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР


РАЗМОВА, якая распачалася на старонках газеты, закранае якраз тыя пытанні, што хвалююць усіх, хто любіць паэзію. Грамадзянскасць, змястоўнасць паэтычнага слова, уздзеянне яго на чытача, пытанні своеасаблівасці таленту, псіхалогіі творчасці — урэшце ніколі не здымаліся з парадку дня. Яны вечныя, як і сама паэзія.

А гэта ж праўда, што ў апошні час нярэдка цяжка вызначыць, хто напісаў той або іншы паэтычны твор. Часта сустракаюцца вершы і ў зборніках, і на старонках газет і часопісаў падобныя, як дзве кроплі вады, — дробязныя па думцы, кволыя па фармальных адзнаках.

Бяздумнасць, слізганне па паверхні, імкненне абысці надзённыя праблемы жыцця і, як вынік, — з'яўленне неабавязковых вершаў, з'яўленне, якое нічым іншым не растлумачыш, як адсутнасцю аўтарскай пазіцыі, творчай канцэпцыі.

Важная «праблема» першай кніжкі. А. Вярцінскі, напрыклад, мае рацыю, калі гаворыць, што неабавязкова ўстанаўліваць нейкія прапорцыі моцных і слабых вершаў у першай кнізе паэта пры яе выданні. Трэба заўсёды памятаць аб беражлівых адносінах да маладых талентаў і ўмець адшукаць тое, магчыма, нават вельмі нясмелае, але па-маладому свежае і трапяткое, з чаго ў далейшым можа вырасці таленавітае, сваё.

Прыгадваецца першая кніга А. Пысіна «Наш дзень». Яна не стала значнай з'явай ў тагачасным літаратурным жыцці, але ўжо тут, пад напластаваннямі павярхоўнай рыторыкі і «завучаных», як кажуць, фраз, сустракаюцца непаўторныя вобразы, свежая думка, схільнасць да асацыятыўнасці мыслення. Карацей кажучы, быў усё ж палёт творчай фантазіі...

А. Пысін доўга яшчэ блукаў па неакрэсленых шляхах творчых пошукаў, пакуль распыленыя, несабраныя зерні таленту не далі плённыя ўсходы. І гэта адбылося таму, што, акрамя цягі да паэзіі, ён увесь час адчуваў адказнасць перад сваім грамадзянскім сумленнем.

«Доўгі час, — гаворыць сам паэт, — нават пасля вайны ўжо не мог, як кажуць, знайсці сябе ў творчасці. Нешта пісалася, нешта друкавалася.

Вельмі дапамагла вучоба ў Маскве, на Вышэйшых літаратурных курсах, тое, што творчым семінарам кіраваў Ул. Лугаўской. Упершыню тады трапіў у сапраўднае літаратурнае асяроддзе...»

Вучоба і настойлівая праца, цвёрдая перакананасць у неабходнасці дзяліцца з людзьмі сваімі перажываннямі, адказнасць за пачатую справу засведчылі «другое нараджэнне» паэта А. Пысіна ў пару яго паэтычнага пасталення.

Думаецца, што такія хібы, як драбнатэм'е, паэтычная шэрасць у большасці выпадкаў звязаны з безадказнасцю тых, хто бярэцца за пяро, — відаць, забываюць яны мудрую параду Льва Талстога: «Не пішыце, калі можаце не пісаць».

Нішто, відаць, так не спрыяе «спыненню» паэта, як зазнайства, самалюбаванне, часам нейкая мяшчанская самазадаволенасць, лянота думкі. Як пісаў крытык В. Іванісенка пра некаторыя хібы сучаснай украінскай паэзіі, «такой сусветнай сцішанасцю, летуценнай заспакоенасцю, санлівасцю, нерухомасцю ахоплены свет у гэтых вершах, што толькі здзіўляешся, як у паэта яшчэ хапае энергіі на рыфмаванне». Гэта ў поўнай меры стасуецца і да маладой беларускай паэзіі. Вось і атрымліваецца часам гэткае «вераб'інае чырыканне».

**Заліцца б тут, як салаўю,**
**Ад радасці вялікай,**
**А ён:**
**«Чырыкаць я люблю».**
**Чырыкай, друг, чырыкай.**

Паэзія будзе дробязным вераб'іным чырыканнем, а паэт будзе ўпадабляцца «магазіннаму вераб'ю»

«...і іншыя пакуль невядомыя героі».

І толькі адзін з сяброў-аднапалчан Цюмнева, адзін з тых, хто застаўся ў цытадэлі,—курсант-наводчык гарматы Міхаіл Дубінін пройдзе праз усе выпрабаванні і застанецца ў жывых. Яго адшукае Васіль Кузьміч у 1969 годзе і прыедзе да яго ў горад Георгіеўск Стаўрапольскага краю, каб успомніць далёкія дні вайны і, успомніўшы, застыць у журботным маўчанні, схіліўшы сівыя галовы перад памяццю аб дарагіх таварышах-курсантах 98-га асобнага процітанкавага дывізіёна.

...На велізарным палігоне недалёка ад сцен Брэсцкай крэпасці, ля самых яе валаў, сабраны ўзоры навейшай ваеннай тэхнікі для правядзення манеўраў. Але гэта будзе заўтра. А цяпер—няхітрая салдацкая вячэра з сухога пайка і начлег на новым месцы. Палатак не ставілі—ноч цёплая, душная, чэрвеньская.

Цюмнеў уладкаваўся побач з вадзіцелем цягача, земляком, былым шафёрам, які вазіў дырэктара роднай МТС, Сашам Тарасавым. Далёка за поўнач курылі, успаміналі знаёмых і блізкіх.

Ускочылі ў чатыры гадзіны раніцы, паднятыя незразумелай блізкай кананадай. Няўжо так рана, датэрмінова пачаліся манеўры? З граніцы прыскакаў на незакілзаным сялянскім кані танкіст у адным боце, крычучы разгублена: «Немец прэ! Вайна!»

Але аб гэтым ужо можна было і не аб'яўляць—над Брэсцкай крэпасцю ўзнялося ў перадсвітальнае неба полымя першых пажарышчаў. Камсамолец Цюмнеў са сваімі таварышамі ўступае ў першы бой з калонай варожых танкаў, якія ідуць на крэпасць. Вучэбны палігон стаў полем бою. Цяжкі няроўны паядынак выратавальны для тых, хто заставаўся ў Брэсцкай крэпасці: у першыя, самыя цяжкія гадзіны вайны ні адзін фашысцкі танк так і не змог прабіцца ў цытадэль. Артылерысты змагаюцца да таго часу, пакуль не пусцеюць зарадныя скрынкі. А затым—зноў бai, але артылерысты—ужо пехацінцы. І ўсё ж яны забіраюць гарматы, каб не пакінуць ворагу. І яшчэ—а раптам раздабудзем, знойдзем дзесьці снарады, а тады...

Штаб у Кобрыне разбіты. Цяжкія дарогі вымушанага адыходу на Усход. Кароткія жорсткія сутычкі і бамбёжкі, бамбёжкі, бамбёжкі.

«Юнкерсы» літаральна вісяць над галовамі, «месершміты» ганяюцца за кожным байцом. Яны і цяпер яшчэ сняцца Васілю Кузьмічу.

Баі пад Баранавічамі. На ўздрыгваючай ад выбухаў, параненай беларускай зямлі застаюцца сябры: Флягонаў, Тарасаў, Цітоў, Ткачэнка. Хлопцы з Расіі і Украіны ў апошні смяротны час абдымаюць слабеючымі рукамі зямлю, нібы прыкрываючы яе сваімі целамі.

Штыкавыя контратакі пад Магілёвам. Абарона Вязьмы. Тройчы пераходзіць з рук у рукі спаленая Ельня. Затым Мыцішчы пад Масквой.

Крыху пазней — чатырохмесячныя камандзірскія курсы ў Іванаўскай вобласці. Адтуль лейтэнант Цюмнеў накіраваны намеснікам камандзіра батарэі на Цэнтральны фронт.

Паранены. З сакавіка па ліпень 1942-га—у шпіталі. Заключэнне ўрачэбнай камісіі: «Абмежавана прыгодны». Камандзір батарэі рыхтуе артылерыстаў для фронту. Разам дабіваюцца адпраўкі на перадавую. Зноў баі, але ўжо на нямецкай зямлі. Вораг пастаўлены на калені. Перамога.

Але не закончылася яшчэ вайна для лейтэнанта Цюмнева. З падземных тайнікоў, абсталяваных яшчэ пры гестапаўцах, з нямецкімі аўтаматамі выпаўзлі, паднялі гадзючыя галовы банды ўкраінскіх нацыяналістаў. Куляй з-за вугла спрабавалі здраднікі спыніць веснавую плынь новага жыцця. І зноў Васіль Кузьміч у цяжкіх сутычках з ворагам.

Дэмабілізаваўся ён у снежні 1945 года. Амаль год шукаў сям'ю. Нарэшце атрымаў доўгачаканую вестачку з дому: жывыя, чакаюць. Ужо адбіў быў тэлеграму, што едзе. Але цяжка расставацца з зямлёй, палітай крывёю тваёй і тваіх пабрацімаў. Да таго ж запрасілі Васіля Кузьміча на гутарку кіраўнікі Львоўшчыны. Сказалі: «Вельмі тут патрэбны людзі вашай загартоўкі. Падумайце».

Услед за першай тэлеграмай пайшла ў Варонежскую вобласць другая: «Прыязджайце. Чакаю». Прыехала сям'я. І стаў варонежскі хлопец, салдат Брэсцкага гарнізона, львавянінам.

Але дзе б ні жыў цяпер былы салдат, ён назаўсёды прапісаны ў Брэсце. Крывёю сваёй, дарагімі магіламі аднапалчан, салдацкім юнацтвам сваім!

# ЛЮДСКІХ НАСТРОЯЎ»

слова пра той незабыўны суровы час, калі ён нічога не помніць? А батальныя сцэны, жахлівыя эпізоды могуць уваходзіць у сны пасля прагляду кінахронікі.

У другім вершы ён сцвярджае:

**ад вайны**
**не засталося слядоў.**

На зямлі — амаль не засталося, а ў сэрцах людзей—засталіся. Гэта пацвердзяць інваліды Айчыннай, удовы і не толькі яны.

Другі малады паэт Міхась Казакоў, спакойна ўспамінае першае каханне як нешта пабочнае:

**І яго не выселіць мне з сэрца,**
**З памяці не выкрасліць нічым.**
**Хоць мне добра з іншаю жывецца,**
**Ёй—не горш, я ведаю, з другім.**
**У яе—маленькая дзяўчынка,**
**Мой гарэза ў садзік ходзіць сам...**
**Часта на аўтобусным прыпынку**
**Сустракацца выпадае нам...**

Аўтар піша: «памяць часам зарушыць пялёгка», а верш паказвае, што нічога страшнага не здарылася. Пакахаў другую, расце сынок... Жыві ды радуйся. Усё талкова ўладкавалася. «И не жаль мне прошлого ничуть».

Ці варта было трывожыць памяць і прызнавацца пра такое каханне? Як гэта далёка ад пакутлівага, чалавечага перажывання:

**Я вас любил: любовь еще быть**
**может —**
**В душе моей угасла не совсем...**

Мяне здзівілі некаторыя вершы Ніны Шкляравай з кніжкі «Мая вёска». Яе лірычная гераіня нейкая непастаянная, узвіхраная. Яна адначасова ўмее быць і «святой», і «грэшніцай», і «жонкаю нявернай», і «любоўніцай». Яна прагне любіць, пераходзячы нават межы дзявочай сціпласці ў выказванні сваіх пачуццяў:

**Дык хутчэй прыходзь, чаго чакаеш?**
**Будзе лепей так абоім нам:**
**Ключ ад радасці ў мяне, ты знаеш,**
**Ад кахання ключ—адзін ты сам!**

Непрыстойна гучыць страфа з пейзажнага верша:

**Лясную гром так, што зморана**
**Вярба на калені ўпала,**
**ПАДНЯЎШЫ СПАДНІЦУ ДА СОРАМУ...**
**А грому было яшчэ мала...**

Бедная вярба, як яе зняважыла маладая паэтэса!

Часта нашы паэты звяртаюцца ў сваёй творчасці да вёскі. Пальма першынства належыць тут маладым і маладзейшым. Ім часцей даводзіцца прыязджаць туды «пераведаць родных, блізкіх, дарагіх»:

**Яшчэ не абарвана з домам ніць,**
**Хаця слабее, як жыццё матулі.**
**(М. Арочка)**

Кожны ў душы глыбока хавае ўспаміны маленства, яны незабыўныя. Бяда, што нярэдка выказваецца гэта любоў неяк прыземлена і аднолькава. Хата, сцежкі маленства, буслы, бярозы... Дарагія ўспаміны, дарагія мясціны. Але ж яны, хаця і не забыты, ды ўсё ж пакінуты.

Тэма вёскі—балючая ў нашай паэзіі. Большасць паэтаў выйшла адтуль, і ўсе па-сыноўняму ў яе закаханы. Мы больш шкадуем дзіцячыя ўяўленні, і не заўсёды распазнаем новае, бо яно адбываецца не на нашых вачах. Адсюль раздвоенасць, а часам і разгубленасць душы:

**А ці застаўся б тут навечна?**
**А ці застаўся б да канца?**
**(Ю. Голуб)**

Перачытваючы паэтаў, заўважаеш, што амаль кожны з іх адгукаецца вершамі пра лес. Цэлая лясная анталогія! Усё часцей і часцей, замест ранейшага замілавання борам, яго веліччу, цярплівасцю, чуецца трывога за лёс нашага «зялёнага друга», хаця гаспадары лесу з лічбамі ў руках даказваюць, што ніякай пагрозы няма.

Лес—святыня. І да яго нельга дакранацца, няхай шуміць, расце, высіцца на радасць нашчадкаў. Такі сэнс радкоў многіх аўтараў. Але жыццё не заўсёды прыслухоўваецца да голасу паэтаў. Спелыя дрэвы выразаюць для людскіх патрэб, а на месцы іх растуць пасаджаныя. Так дыктуе няўмольны закон быцця. А паэты, як згаварыўшыся, кінуліся ратаваць бор. Іх абарона «зялёнага друга» таксама выклікае трывогу сваім адчаем, стэрэатыпнасцю думкі, ваяўнічай гатоўнасцю з некім змагацца:

**Плачуць і просяць ратунку лясы.**
**(С. Грахоўскі)**
**. . . . . . . . . . . . . . .**
**Якія бары былі на зямлі—**
**пабачыце ў тэлевізары.**
**(В. Вітка).**
**. . . . . . . . . . . . . . .**
**Шкадую, што я не ляснік.**
**(А. Пысін).**
**. . . . . . . . . . . . . . .**
**Неяк робіцца страшна, калі кожны**
**твой пень выглядае магільнай**
**плітой. (Я. Сіпакоў).**
**. . . . . . . . . . . . . . .**
**Тых, хто аднойчы ім здрадзіў,**
**караюць маўчаннем лясы.**
**(Л. Дайнека).**

Усе такія просьбы і прызнанні «паэтаў харошых і розных» пасля «Паэмы майго лесу» П. Панчанкі, дзе паэт па-грамадзянску размаўляе з лесам «пра каханне і смутак і пра шчасце, якое так цяжка ўладкаваць на зямлі», нагадваюць водгулле пасля грому.

Сапраўдны паэт піша так, каб у яго творах адчувалася, што ён у адказе за справядлівасць, прынцыповасць, чалавечую дабрату. «І чуць дакорам і вымовай: ты ўсё павінен, ты паэт!» (К. Кірэенка).

Часта ў творчай практыцы з сапраўднай баявітасцю і натуральнасцю паэзіі мяжуецца «асцярожненькая гульня ў смеласць». Гэта нараджае вершы-загадкі, у якіх усё трымаецца на выбуховым падтэксце, на шматзначных намёках, на ўяўнай глыбакадумнасці. Мусіць, супраць такіх скіраваны радкі П. Броўкі:

**...умеюць са спрытам**
**Туманіць, кружыць,**
**віхляць...**
**Давайце ж будзем**
**адкрыта**
**Чорнае чорным называць.**

З часам, з жыццём, калі ёсць душэўная неабходнасць, трэба гаварыць шчыра, адкрыта, не хавацца за напластаванні маўклівых вякоў.

Згодзен з А. Вярцінскім, што ў нас ёсць нямала твораў, якім «не хапае жыццёвай пэўнасці, эмацыянальна-псіхалагічнай канкрэтнасці, адзнак часу». Іх, звычайна, чакае лёс фельетона, калі не пацвярджаюцца факты. Факты сваёй душы, факты пра самае дарагое і балючае. Змястоўныя, хвалюючыя вершы застануцца крыкам у пустыні, калі не будзе каму з грамадзянскай смеласцю блаславіць у свет і звярнуць на іх увагу пасля абнародавання. Адсюль і такая патрэба паэтаў шырэй выказацца сваімі творамі. Яны даюць пэўнае ўяўленне пра «погляд на жыццё, характар чалавека, яго памкненні, пра тое, што ён хоча сказаць, што даказаць, куды ён кліча людзей» (М. Луконін).

Вядома, такія рэчы спачатку могуць паказацца спрэчнымі, нязвыклымі побач з лёгкаважкімі радкамі, якія ніколі не выводзяць з раўнавагі сваёй бяздумнасцю і гладкапісаннем.

(Ю. Свірка, «Ода магазіннаму верабʼю», «Полымя», № 1, 1972) да таго часу, пакуль не прамяняе бяздзейсную ўтульную цішыню «неонавага падстрэшка» на актыўнае і дзейснае жыццё. Толькі цяга да грамадскага жыцця робіць таленавітую асобу паэтам і ўзмацняе гучанне «свайго» голасу.

Калі меркаваць па апошніх нумарах (а іх ужо шэсць) гэтага года часопісаў «Полымя» і «Маладосць», то вершы пра «хлеб надзённы», пра працоўныя будні часцей сустракаюцца ў старэйшых паэтаў (П. Броўка — «Калі я крою бохан хлеба...», «Краны», А. Зарыцкі — «На гарадской ускраіне», «Паважаю працу...», А. Русецкі — «Роздум» і інш.).

Добра гэта ці не?

У вершах маладзейшых — таксама часам пяецца, як кажуць, хвала працоўным мазольным рукам. Нават ёсць спробы віртуозную форму сярэдневяковага «арыстакрата» — санета прыжывіць на беларускай народнай глебе, напоўніўшы гучаннем сучаснасці. Вянок санетаў Ул. Дзюбы «Выток» услаўляе працу беларускіх нафтавікоў. Ды ўся справа ў тым, як вырашаецца тэма... Добрых твораў аб паўсядзённых справах чалавека працы сустракаецца вельмі мала. Тое, што сустракаецца, часцей за ўсё носіць павярхоўны, апісальны характар. Часам творам не хапае звычайнай паслядоўнасці думкі.

Па-сапраўднаму радуюць тыя радкі, дзе думка паэта нібы зліваецца з роднай прыродай, з хлебам надзённым, з шумам жытнёвых калоссяў у полі, гулам камбайнаў, а не лунае ў завоблачных вышынях, невядома дзе.

**Цёмны бор, сцяжына ў жыта гэта**
**першай казкай мне былі ў свой**
**дзень,**
**прыгадаць магу, з якога лета**
**металічны ў полі жук гудзе.**
**(А. Зарыцкі).**

Чытаеш і нібы адчуваеш, як пахне на стале толькі што спечаны бохан роднага хлеба, уяўляеш сцяжынку ў жыце, якая працягнулася з сэрца паэта ў дзяцінства і маладосць.

Шкада толькі, што «хлеб надзённы» жыве ва ўспамінах:

**Хлеб надзённы — даўнія нягоды,**
**І калі тут імі жыў, гарэў,**
**Чуеш кожны зрух зямлі і подых,**
**Гук матора і птушыны спеў.**

У часопісе «Маладосць», як і ў іншых перыядычных выданнях, безумоўна, знойдзеш і вялыя, нудныя радкі, і «вершы невядома пра што» (В. Бечык). Але хочацца звярнуць увагу на тое шчырае і непаўторнае, што радуе і хвалюе чытача. У першых чатырох нумарах гэтага года ёсць добрыя вершы, у якіх адкрываецца кавалачак жыцця, свежы згустак чужых перажыванняў, якія становяцца нашымі перажываннямі.

У радках Артура Вольскага («Параненыя сосны», № 1) чытаем разам з аўтарам «аповесць» яго пакалення, параненага вайной. «Б'ецца ў пытаннях адвечна-пакутных» разважлівая песня Міколы Арочкі (№ 1), у якой успаміны аб трывожным ваенным дзяцінстве спляліся з роздумам над сучаснасцю. Маладым запалам, неўтаймаванымі парываннямі, нейкай задзірыстай хлапечай бадзёрасцю, роздумам над жыццём хвалюе Алесь Разанаў (№ 2). Аб чым бы ні гаварыў паэт, ён заўсёды імкнецца ўстанавіць знешнюю або ўнутраную (падтэкставую) сувязь «між дыялектыкай надвор'я і дыялектыкай душы». Улюбёнасць у жыццё, у навакольны свет, крыху сентыментальная адданасць рамантычнаму захапленню жыццём—у вершах Святланы Басуматравай (№ 3). Дзявочая гарэзлівасць, імкненне зрабіць па-свойму, ад перапоўненасці пачуццяў падражніць свой лёс («казалі мне: не йдзі па лёдзе, а я на самым на лядку») у вершах Раісы Баравіковай (№ 3). Бадай, самая маладая сярод аўтараў студэнтка філфака БДУ імя Леніна Любоў Тарасюк (№ 2). Радкі яе вершаў мяккія, яшчэ ледзь не па-дзіцячаму пяшчотна-кволыя. І не дзіўна, што, прызнаючыся ў любові да роднай зямлі, успамінае яна маміны далоні:

**О, зямля, дарагая зямліца!..**
**Колькі сэрцу, як птушцы, ні біцца—**
**У тваім назаўсёды палоне.**
**Мне б расіцаю звонка скаціцца**
**На твае, як у мамы, далоні.**

Хай не ўсё тут «нова», але усё ж гэта прываблівае нас і непасрэднасцю, і спробай самастойнага асэнсавання ўласнага вопыту («Я кожны раз душой мацней, маўчу ад крыўды і не плачу»).

Уменне бачыць неабсяжнасць свету, складанасць яго, вялікае ў дробязным, бясконцае ў межавым, уменне адлюстраваць дыялектыку жыцця, яго няспынны рух — гэта тое, што вызначае ў нашы дні творчасць лепшых майстроў слова—Л. Мартынава, Э. Межэлайціса, М. Танка, А. Куляшова і інш.

Думаецца, што абавязковай умовай сапраўднай паэзіі з'яўляецца яе інтэлектуальнасць (не ў сэнсе навуковасці або мудрагелістасці, якая нярэдка зацямняе сэнс). Інтэлектуальнасць не падмешваецца ў гатовым выглядзе да паэзіі, яна — вынік шматграннасці паэтычнага таленту. Не інтэлектуальнай паэзіі не можа існаваць, таму што інакш гэта не паэзія, а падробка яе. Сапраўдная інтэлектуальнасць у глыбокім разуменні жыцця, ва ўменні бачыць незвычайнае ў непрыкметным, у звычайным, у навакольным!

Мерай вартасці кожнага твора з'яўляецца яго мастацкасць, якая нясе на сабе адзнакі часу і сагрэта перажываннем і натхненнем творчай асобы. І лірыка філасофская, інтымная, і пейзажная, калі ёй удалося «спыніць імгненне сваёй эпохі», з'яўляецца такой жа грамадзянскай, як і лірыка, напоўненая самым высокім і страсным грамадзянскім пафасам.

І зусім няплённымі ўяўляюцца спрэчкі аб грамадзянскасці і змястоўнасці паэзіі ў такім плане, у якім яны вядуцца нярэдка яшчэ і сёння, калі гэтыя катэгорыі разрываюцца і супроцьпастаўляюцца.

Уладзімір КАРПАЎ

З НОВАЙ КНІГІ «ПРЫЗНАННЕ Ў НЯНАВІСЦІ І ЛЮБВІ».

# О, ГЭТАЯ ШЧЫРАСЦЬ!

МНЕ ЦЯЖКА РАСКАЗВАЦЬ, але я павінна!..

Прывезлі іх да нас на Шырокую ў душагубцы. Як цяпер помню, вылезлі яны апошнія. Спачатку — прафесар. Потым — Галіна Мікалаеўна, якой ён памог сысці. Пацалаваўшы ў лоб, пагладзіў па шчацэ і ўзяў пад руку. Заўважыўшы — здаля цікуем мы, зняў памяты капялюш і, сівы, востраплечы, памахаў нам.

Чаму яго накіравалі сюды? Славутага хірурга, вучонага? І чаму ў канцлагер, а не ў Трасцянец або Нямеччыну, як часцей за ўсё?

Лагер абуджае падазронасць. Абвастраецца пачуццё справядлівасці—побач небяспека, і лёгка можа стацца, што заўтра-паслязаўтра жыць давядзецца ўжо не табе. Таму... надта хочацца, каб той, каму пашанцуе, заслужана карыстаўся дабротамі жыцця А тут яшчэ холад з голадам... Навокал загаманілі.

— Чулі—«гер»? Гер-гер... Чаго, цікава, цацкаюцца з ім, бы з госцем? Таму, што падпольшчык? А мо, што клічка гучная! Самарын!

— Але, не вяжацца...

— Не бойся, вяжацца. Арышты вунь як ішлі, так і ідуць

Не зусім верылася ў гэтыя скептычныя і зласлівыя нагаворы, але, прызнаюся, карцела... каб было іменна так:

Мяне моцна білі ў СД. Білі так, як б'юць асуджаных на смерць, калі трэба адно — вырваць пэўнае слова. Таму ўсё на белым свеце здавалася гідкім. Не было і заўтрашняга дня. Бо неставала сілы пачаць усё спачатку, не было гатоўнасці нанава прайсці праз жахі ў засценках. Дый я не верыла ў Клумава да канца. Яго шчырасць, па-мойму, дэканспірыравала нас, а дабрата была бесхрыбетная, паказная. Праўда, да яго хінуліся людзі. Пабыўшы з ім, як бы падзараджаліся. Студэнты-практыканты нават пачыналі гаварыць паягонаму — расцягваючы словы і трошачкі заікаючыся... Але гэта, мусіць, асабліва і злавала — слепата нейкая! Знайшлі з каго бога рабіць?!

А мінулае? Хіба не блытанае?

Нарадзіўся ў Маскве. Ад маці, як сведчылі прыхільнікі, пераняў любоў да музыкі, ад ліберальнага адваката-татулі — яшчэ нешта. Гімназістам вызубрыў латынь... грэчаскую, нямецкую, французскую... Захапляўся Лермантавым, Дастаеўскім. Калі верыць, прымаў удзел у студэнцкіх хваляваннях... Праўда, нішто? Адвакат, музыка, Дастаеўскі, ха-ха!

Далей таксама... Маскоўскі універсітэт, практыка ў якасці звышштатнага ардынатара ў белакаменнай. Потым — царская армія, Нова-Кіеўскі ваенны шпіталь, дывізіённы лазарэт, званні. Не шмат каму выпадае такое... Хоць пасля дэмабілізацыі, як кажуць, задурыў — адмовіўся ад працы ў матухне Маскве і махнуў у Беларусь. Служыў у земскіх бальніцах Лоеўшчыны, калясіў па вёсках. Але пачакайце!.. Пабываўшы ў сялянскіх хатах, загарэўся жаданнем латаць тагачасную беднасць. Завёў пародзістых свіней — чуеце? — і адорваў беднякоў парасятамі.

Гэта ўсё насцярожвала, раздражняла: усё, усё! І яго ідэалізм, і яго культуртрэгерства. І нават тое, што ён, масквіч, палюбіў Беларусь і лічыў яе другой радзімай... А як жа іначай?

Я ведаю, як далёка можна зайсці ў сваім адмаўленні. Але... у першую сусветную вайну Клумаў зноў апынуўся ў армейскіх лазарэтах. Прыняўшы — во, во! — Кастрычнік, узначаліў — ясна? — Мінскі хірургічны шпіталь Чырвонага Крыжа... Адным словам, за гады Савецкай улады ўзняўся да славутасці. Ну і зразумела, павылазілі пытанні: адкуль такая адданасць? Што канкрэтна жывіць яе? Ці прыйшло б усё гэта, каб не рахуба?

Або! Уцякаючы з бежанцамі з ахопленага агнём Мінска, Клумавы далей Бярэзіны не пайшлі. Чаму? Прытулак аблюбавалі пад Пухавічамі, у прылеснай хатцы, якую яшчэ ўвесну знялі пад дачу... Во супадзенне!.. Жылі там, пакуль не атрымалі калектыўнае пісьмо былых супрацоўнікаў. Аднак пра гэта пазней... Тыя пісалі, што ўцалелыя гарадскія бальніцы немцы захапілі пад шпіталі і пакінулі мінчанам адну паўразбураную Першую савецкую, дзе ўпокат ляжаць хворыя, парадзіхі, раненыя.

Упікнуць Клумава, што ён з кійком, у атопках на распухлых нагах прычыкільгаў у Мінск, не ўпікнеш. Людзі хварэлі, раджалі — жыццё ішло сваімі дарогамі. Дый сама я мусіла працаваць... Але і тут была закавыка...

Не, я разумела: калі моцна хочаш знайсці штонебудзь, заўсёды знойдзеш. Асабліва такое, што кіне цень на непрыемнага табе чалавека. Важна захацець. Важна пачаць... Але ў дадзеным выпадку, бадай, і гэта насцярожвала — разам з усімі пісьмо падпісала сцерва-Станіслава! Фіфа з «пакрыўджаных». Значыць, Клумава запрашалі не адны сябры. Значыць, яго вяртанне было на руку не толькі ім. Хіба не крымінал? Ён жа персона!.. Знайшліся няўрымслівыя. Дакапаліся — к прыезду Клумава ў Мінск меў таксама дачыненне нейкі нямецкі саноўнік, у якога захварэла жонка... Іначай кажучы, хочаш чаго б ні каштавала давесці сваё — ха-ха! — падмачы рэпутацыю свайго дабрадзея. Праўда тады — у цябе ў кішэні...

Лагер наш быў звычайны — высокі плот, вартавыя вышкі, калючы дрот. Стандартны і набор будынкаў — рэчавы склад, лазня-санпрапускнік, кухня, каравульная... Той жа «габерзуп» з неабабранай бульбай, тыя ж блохі. Усё як усюды. Хіба што — пад барак адведзена даўжэзная былая стайня. На дварэ жолабы, з якіх некалі кавалерысты-«самарцы» паілі коней. Ды яшчэ хіба — праклятая гіблая будыніна з тыфознымі, якой баяліся як чумы і адкуль санітары-яўрэі выносілі трупы.

Перад тым, як душагубка прывезла Клумавых, са стайні, дзе ў адной палавіне туліліся старажылы, якія хадзілі на работу ў горад, а ў другой — бабулькі з малалеткамі, здаецца, з-пад Полацка, апошніх вывезлі. Было і не стала... У памяці засталося толькі, што яны ўсе кашлялі. Надрыўна, закідаючы назад галаву, каб схапіць паветра. І яшчэ адно. Праз гэты кашаль камендант часта ўрываўся да іх і страляў у столь... Дык вось, калі прывезеныя прынялі ў лазні душ, вызваленую палавіну яшчэ дэзінфецыравалі, і навічкі мусілі сланяцца па двары. Помніцца, хусткі ў жанчын папрымярзалі да валасоў... Але гэта я так. Нагадалася, як рынуліся яны займаць нары.

Праўда, Клумавым уступілі «лепшае месца»— дзе менш дзьмула. Аднак лагерны ўрач, як толькі пачуў, што яны тут, адразу забраў іх і павёў да сябе. У малюпасенькую каморку ў асобным доміку — у так званы медыцынскі пункт.

Клумавы выглядалі дарэшты знясіленымі. Асабліва Галіна Мікалаеўна. Пасля допытаў і катаванняў у турме яна, як казалі тыя, што паспелі перакінуцца з ёй словам, загаворвалася і мала каго пазнавала. Дый ле цяжка было пазнаць. Ад змардаванасці ў ле ажно патанелі валасы і павылазілі цэлымі пучкамі. Гэта мучыла яе, і, да ўсяго, яна бясконца папраўляла рваную пуховую хустку.

Даўней я кпіла са слабасцей прафесаршы. Кпіла і з таго, што яна старалася быць маладой, што баялася старасці, маршчын. Кпіла, што, здагадваючыся — жончыны трывогі звязаны з ім, жадаючы падбадзёрыць яе, Клумаў — ха-ха! — знарок захапляўся ёю: «Як-кая ты малада-ая, Галя! Мне про-оста няёмка за сябе. Не-э, сур'ёзна, скажы, хто з тваіх аднаго-одак выглядае як ты? Ну-у? Табе ж со-орак пяць, не болей...» Але цяпер я — я! — пазайздросціла ёй. Слова гонару! Ведучы жонку ў медпункт, бачачы, як яна хукае на замёрзлыя рукі і хапатліва запраўляе рэдкія валасы пад злубянелую хустку, Клумаў гладзіў яе спіну і казаў:

— Нічога, галубачка, нічо-ога! Не хвалюйся. Яшчэ не ўсё стра-ачана. Толькі не пап-пускайся, малю. Помніш, як ты с-спалохалася вобыску?.. А т-тады ў лесе?..

«Што гэта?—думала я, праводзячы Клумавых позіркам. — Гульня? Самагіпноз? Звычайнае глупства? Асаблівы дар?.. Няўжо, сапраўды, ёсць такая здольнасць?.. І, калі яе шанаваць, не транжырыць, яе, як відаць, хапае на жыццё. Колькі яму? Многа. А ён, пэўна, і знаць не хоча аб пераменах у жонцы і, безумоўна, шкадуе яе незвычайна. Кахае сваю Галю мацней, чым калі!»

Хоць мне пад трыццаць, я не мела сваёй сям'і. Ды, калі казаць праўду, не перажыла і кахання. Не вельмі верыла ў яго раней, не вельмі верыла і тады. Глядзела як урач — усё прасцей. Трэба — яно прыходзіць, не трэба... Мужчыны выклікалі ў мяне недавер'е. Вераломства, фатаваты ганарок... Я таксама нядужа падабалася ім — бракавала, відаць, жаноцкасці. А магчыма, залішне было непрымірымасці да іх слабасцей, замнога настырнага жадання навязаць сваё. Не памагалі ні косы, ні грудзі, ні постаць...

Бацька мой некалі працаваў следчым. Во злая іронія — таксама юрыст! Але ў трыццаць дзевятым яго рэпрэсіравалі самога. Я, камсамолка, стаяла тады перад самастойным жыццём і, вядома, у абурэнні, — як ён там штосьці пасмеў?!— адраклася ад яго на сходзе. Ён зрабіўся ненавісны мне... А тут неўзабаве страціла і маці. Пры першай нямецкай бамбёжцы. Нават не змагла выкапаць яе труп з-пад руін.

Не скажу чаму, але гэтыя дзве падзеі зліліся ў маёй свядомасці ў адно, абудзілі бязлітаснасць да ўсіх і сябе. Ажно як бы высмалілі. Бачылі, гузаватую вярбу, у дупле якой раскладалі агонь?.. Вось такой і ўвайшла ў вайну...

Навокал гарэла, рвалося, а я перавязвала, апервала. Цывільных клала ў палаты. Ваенных адпраўляла спадарожнымі машынамі. Апошні раз ведаеце, як адправіла? Распласталася ўпоперак маставой і не ўстала, пакуль не ўзялі... І тых, што засталіся, не кінула. Разумела: яны адны цяпер звязваюць мяне з жыццём. І калі, падлячыўшы, апрануўшы ў назбіранае ў суседзяў, з клуначкам выпраўляла ў дарогу — цераз бальнічны двор, у руіны трыццаць трэцяй школы, — ажно заходзілася ад помслівага пачуцця... Ага!..

Разлютаваная, у адчаі цвёрда рашыла: выхад адзін — шкодзіць, грызці зубамі. І шкодзіла...

Але зараз — так, так! — разам з нейкай трывогай за сябе ва мне варушылася зайздрасць да гэтай паўзвар'яцелай, вартай жалю жанчыны.

Я, пэўна, пачала свой расказ не з таго. Выпускаючы з-пад увагі галоўнае... Але, паверце, — я клянуся! — старамодныя клумаўскія сентыментальныя любошчы збянтэжылі многіх. Іменна многіх!.. Хоць я зноў, адганяючы слабасць, старалася прынізіць і гэта—і ў сваіх, і ў чужых вачах.

Твар у твар мы сустрэліся праз некалькі дзён — у чарзе за абедам. Гэта, па-мойму, была адна з ганебнейшых працэдур у лагерным побыце — калі мы, вязні, пад наглядам паліцаяў — не дай бог, каб хто не стаў у чаргу двойчы! — атрымлівалі кансервавую бляшанку баланды.

— Ду-ушачка, вы? Значыцца, памагло-о ўсё-такі!.. — радасна здзівіўся Клумаў, дакранаючыся вусамі і губамі да маёй рукі.—Галя, паг-глядзі, яна жыва-ая! Як і мы... Калі вывелі нас на т-турэмны двор і пачалі за-аганяць у душагубку, думалі — усё! Добра, што нехта папярэдзіў: зачы-ы-няць дзверы шчыльна — кане-эц, возьмуць на ланцужо-ок — не ўсё яшчэ к-кончана. Узялі на ланцужо-ок!

Галіна Мікалаеўна ўскінула на мяне жаласны позірк, вінавата зморшчылася і ўзялася папраўляць валасы.

Не, да капітуляцыі было далёка. Падумаеш!.. Потым я нават лаяла, дакарала сябе, што пачала ўсміхацца, трэсці прафесарскую руку, спачувальна ахаць. Перад кім? Дый навошта ўсё гэта? Хіба не ўсё роўна? Але... Але словы «памагло ўсё-такі» не праляцелі міма вушэй. Клумаў, як выявілася, быў у курсе маёй падпольнай дзейнасці і штосьці рабіў, каб выратаваць мяне...

— Заходзьце абавязкова! — сакатаў ён, прапускаючы мяне наперад сябе і сумнымі вачыма запрашаючы палюбавацца на днявальнага, які важна арудваў чарпаком ля бочкі. — Гэта ўжо не пашкодзіць нам. Заходзьце. Мо-ой шаноўны доктар, раз-зумееце, раздабыў сахары-ынчыку. Пагаворым пра лёс, нав-віны.

Аднак было відаць: сам Клумаў таксама жыве на нервах. І хоць стараецца не паказваць выгляду, хоць ужо на другі дзень рынуўся працаваць у тыфозны барак, сілы ў яго канчаюцца — здае сэрца, мучае закаранелы дыябет. Вуглаваты твар у яго змарнеў, ад чаго вушы, здавалася, адтапырыліся, сталі большыя.

Яшчэ па дарозе сюды сёй-той з нас ухітрыўся выкінуць на маставую пісульку — з просьбай перадаць блізкім, дзе каго шукаць. І як ні цяжка даводзілася нашым там, на волі, мы сяды-тады праз старажылаў, якія расчышчалі вуліцы, атрымлівалі пасылкі-пакуначкі.

І вось што тут зноў нечакана высветлілася — сярод разнашэрстных людзей, якія па самых розных прычынах трапілі ў лагер, бадай, не было

 ЧАСОПІС ВЫЙШАЎ У СВЕТ ЧАСОПІС ВЫЙШАЎ У СВЕТ ЧАСОПІС ВЫЙШАЎ У СВЕТ

# РЭПАРТАЖ З КРАІНЫ БЕЗ УСМЕШКІ

Дакументальны жанр літаратуры, у прыватнасці, жанр дарожнага дзённіка, набыў незвычайную прыцягальную сілу і сваёю папулярнасцю ў чытача супернічае з мастацкімі творамі. Яго папулярнасці садзейнічае тое, што ён абяцае інфармацыю з першых рук, сустрэчы з нявыдуманымі падзеямі і фактамі, пададзенымі праз успрыманне пэўнага, зусім канкрэтнага чалавека.

На жаль, гэты жанр у нашай літаратуры доўгі час быў, мякка кажучы, занядбаны (на што былі, вядома, і аб'ектыўныя прычыны), і толькі ў апошнія гады справа, здаецца, зрушылася з месца. Беларускія пісьменнікі ўсё часцей бываюць у блізкіх і далёкіх падарожжах, у выніку якіх з-пад іх пяра не-не ды і паяўляюцца творы, пазначаныя адзнакай вабнай нявыдуманасці і асабістай прыналежнасці аўтара да таго, пра што вядзецца гаворка. І, мусіць, не памылюся, калі скажу, што ўсе гэтыя творы, нягледзячы на іх розны ідэйна-мастацкі ўзровень, знаходзілі і знаходзяць свайго зацікаўленага і ўдзячнага чытача.

Чэрвеньская кніжка «Полымя» прынесла нам такую чарговую сустрэчу — «Рэпартаж з рубцом на сэрцы» Максіма Лужаніна, які восенню 1968 года ў складзе дэлегацыі Беларускай ССР на Генеральную Асамблею ААН пабываў у Злучаных Штатах Амерыкі. Ураджанні гэтай паездкі і леглі ў аснову твора.

М. Лужанін, адзін са старэйшых і адметнейшых нашых паэтаў, мае немалыя здабыткі і ў жанры прозы. Дастаткова прыгадаць толькі такія яго кнігі, як «Колас расказвае пра сябе» і «Дванаццаць вячорных вогнішчаў», — кнігі надзвычай змястоўныя, багатыя на думку і пачуццё, дакументальныя па сваёй аснове і паэтычныя па гучанні. У іх гаварыла зайздросна ўчэпістая памяць паэта, і гаварыла па-лужанінску каларытна, сакавіта, вобразна.

Усё гэта ўласціва і амерыканскаму рэпартажу пісьменніка, які, зазначу адразу, чытаецца з неаслабнай увагай і цікавасцю. І яшчэ. Можа гэта і не так істотна, але здаецца мне, што асаблівую акрасу твору надаюць незласлівая, крыху іранічная ўсмешка аўтара і на дзіва «смачнае», жывое, непаўторнае, надта ж ужо «беларускае» лужанінскае слова.

У Амерыцы пісьменнік сур'ёзна захварэў — здарыўся цяжкі сардэчны прыступ. Хвароба абвастрыла ўражанні, высвятліла ўсё ўбачанае і пачутае ярка і выпукла. І гэта адчуваецца ў кнізе (кажу так, бо «Рэпартаж з рубцом на сэрцы» не рэпартаж, дзённік альбо нарыс, а менавіта кніга) на кожнай старонцы, у кожным радку. Часта проста здзіўляешся праніклівасці назіранняў аўтара, яго ўменню супастаўляць факты, арыентавацца ў чужой краіне, адчуваць і разумець яе людзей, іх звычкі і побыт.

Сам пісьменнік у «Слове да размовы» гаворыць пра гэта так: «У аўтара гэтых радкоў ёсць адна перавага і адна бяда: я пабыў там, куды не ўсім здараецца даляць, і не дай алах трапляць, у Амерыцы. Часу і адпаведна магчымасцей назіраць было вобмаль, таму кожны кавалачак рэчаіснасці ўваходзіў у істоту і адбіваўся на ўсю вастрыню зроку і пачуцця».

«Часу і адпаведна магчымасцей назіраць было вобмаль...» Тым не менш пісьменнік змог пабачыць надзіва шмат. Вось толькі некаторыя з падзагалоўкаў раздзелаў, якія гавораць ужо самі за сябе: «Бэзавае святло і сабачы могільнік», «Начлежнікі ў парку», «Тэатральны вінегрэт», «Забастоўкі і псіхічна хворыя», «Дэманструюць паліцэйскія», «Як стаць мільянерам?», «Жалезны прэс нажывы», «Грукат перадвыбарных бубнаў», «У цяньку статуі Свабоды», «Амерыканец з вёскі Прусы» і г. д. Пераказаць змест кнігі немагчыма, ды ў гэтым няма і патрэбы — чытачы наўрад ці абмінуць шосты нумар «Полымя». Таму спынюся толькі на некаторых яе старонках.

«Мая маленькая ўнучка сярод самай вясёлай гульні, калі ёй робіцца што не пад густ, абяшчае бацьку або маці: «Я цябе буду «бізяць», — гэта значыць крыўдзіць...

Гэта прыгадалася мне ў Амерыцы. Не таму, што і я збіраюся некага «бізяць», — занятак мала патрэбны і, як на адну сілу, смешнаваты, дый не надта дадуцца тут ў крыўду. Аднак абвясціць нешта на ўзор славянскага выкліку «іду на вы» мушу, абавязан сэрцам, розумам, усім, што ў мяне ёсць новага і адменнага ў параўнанні з гэтым далёка не новым светам, з даўно адкінутым намі ладам».

Гэта, калі можна так сказаць, зыходны пункт апавядальніка. Робячы сваё «адкрыццё Амерыкі», імкнучыся быць аб'ектыўным, пісьменнік усё ж ні на хвіліну не забывае пра тое, што ён пасланец вялікай Радзімы сацыялізма, за якім — будучыня, і гэтае адчуванне на зямлі «далёка не новага свету» дае яму права глядзець на навакольнае з вышыні нашага ладу і нашай праўды, але, вядома, без пагарды і знявагі да працавітага і таленавітага амерыканскага народа.

Ужо ў самым пачатку кнігі, гэта значыць, у першыя дні знаходжання ў ЗША, пісьменнік гаворыць: «Вось ужо зараз усёй істотай абвяргаю, спрачаюся:

з няспынным выццём пажарных сірэн у гарачым, парным, вільготным паветры;

з паказной набожнасцю (кожную тэлеперадачу пачынае пастар, рабін, поп) і поруч з ёю самым бессаромным рабункам грошай і душ;

з перанаселенасцю людзей і перавытворчасцю машын, а ў сувязі з гэтым — хісткасцю дабрабыту, такога ломкага, як першы лядок на лужыне (кватэра адбірае палавіну заробку, пагаліцца 1 то 2 долары, правесці дзень у клініцы — лічба астранамічная);

з нясмачнаю ежай: прадукты напіхаюць хіміяй, інакш псуюцца;

з марнай мітуснёй, і ўсё подбегам. Гэта заўважыў і выдатна ацаніў Эйзенштэйн: «Каб мая ўлада, я ўсюды загадаў бы паставіць зручныя садовыя лаўкі. Можа б тады амерыканцы прыселі і задумаліся».

Думка пісьменніка сягае свабодна, шырока і глыбока. Дзелячыся першымі ўражаннямі ад Нью-Йорка, расказваючы пра магутную прапагандысцкую машыну імперыялізму, «муры маны і агароджы забарон», праз якія цяжка прабіцца «слову дэмакратычнаму, сапраўды свабоднаму», пра тое, як простыя людзі даюць выйсце своеасабліваму пратэсту («На сценах, звернутых да вуліцы, глухіх, без акон, у бетонных заездах пад масты часта-густа спыняюць выгукі, так сказаць, шчырага сэрца. Ніштаватымі літарамі, каб відаць было з машыны, фарбай павышанай трываласці, каб не так хутка пераеў смог, выведзена: «Чхаў я на ваш капіталізм!»), М. Лужанін прыгадвае сваю першую сустрэчу з Амерыкай — «не з краінай, вядома, а з тымі, з кім мы разам апынуліся на Эльбе і няблага чокнуліся за перамогу».

Першыя кантакты з амерыканцамі ў шпіталі, роздум пра тое, што Амерыка накладае на людзей своеасаблівы адбітак «уяўнае дабрабытнасці, потым замкнёнасці, дбання толькі аб сабе, аб сваіх вераб'іных кроках, якія здаюцца сямімільнымі ці за такія выдаюцца», збудзілі даўнія ўспаміны пра аднавяскоўца з родных пісьменніку Прусаў на Старобіншчыне. Расказ пра «амерыканца з вёскі Прусы» перарастае ў жывую, псіхалагічную і дужа маляўнічую навелку.

Вось пісьменніку прыносяць у шпіталь беларускія газеты. На чужыне, ды яшчэ хвораму, вестачка з Бацькаўшчыны — найлепшыя лекі. Узварушаны, расчулены, аўтар не можа стрымацца, каб тут жа не занатаваць у сваю карталюшку: «Паглядзеў даклады на пісьменніцкім пленуме... І як быццам пабыў там сярод таварышаў, пакурыў у перапынку, паслухаў жарты, паспрачаўся. Наогул кажучы, новага не вельмі шмат. Як правіла, на такіх пашыраных пасяджэннях дакладчыкі стараюцца нешта адкрыць, назваць новую рэч або прозвішча. На жаль, часта да наступнага пленума адкрыццё намоцна забываецца або аказваецца нуднаватай аповесцю ці сухой, немузычнай паэмкай. І ў каго з нас не было такіх

# ШЧЫРАСЦЬ РАДКА

Асабіста я лічу: калі не жыць сучаснасцю — нельга пісаць... І не трэба разумець гэтыя словы спрошчана і прасталінейна — сэнс тут значна глыбейшы і шырэйшы, чым спрабуе хто-кольвечы ўявіць, — бо, як вядома, часта вершы, змест якіх спачатку можа падацца вельмі далёкім, якія, здавалася б, не маюць амаль ніякіх адносін да сучаснасці, выкліканы да жыцця самымі блізкімі, самымі надзённымі падзеямі. І наадварот, здараецца так, што пры ўсім багацці і значнасці тэмы, лірычнаму твору бракуе вялікага паэтычнага зместу.

На такі роздум наводзяць вершы трох нашых сталых і па-рознаму добрых паэтаў — Аляксея Зарыцкага, Аляксея Русецкага і Генадзя Бураўкіна, чые новыя паэтычныя падборкі змешчаны ў жнівеньскай кніжцы часопіса «Полымя».

Асабліва засяроджвае на сябе ўвагу праблема сучаснасці ў паэзіі сёння, калі ў розных літаратурных выданнях, у тым ліку на старонках «ЛіМа», разгорнута шырокая і цікавая размова аб інфляцыі паэтычнага слова, аб драбнатэм'і, страце публіцыстычнасці, аб грамадзянскім абавязку паэта.

**Ты для адных — ціхутная рэчка,**
**Дзе шэпчуцца млява чарот і трысцё.**
**А для мяне**
**Ты — са смерцю спрэчка,**
**Вечны бой за жыццё, —**

так справядліва дэкларуе сваё творчае крэда ў вершы «Паэзія» А. Зарыцкі.

Сапраўды, тэмы жыцця і смерці, дабра і зла — хоць і не новыя, але надзённыя. Змаганне за чалавечнасць, за высокія ідэалы таксама не сёння пачалося. Тут, гаворачы аб спецыфіцы мастацтва, усё залежыць ад таго, якімі словамі паэт выказвае свае думкі і пачуцці. Карацей, у даным выпадку, важна не толькі **што**, але і **як**. Зразумела, пажадана, каб **што** і **як** былі раўназначнымі,—калі змест варты формы, каб трапяткая думка і стрыманае пачуццё былі лірычна паяднаны і гарманічна спалучаны, альбо, інакш кажучы, каб пачуццё было прадчуваннем думкі...

Мне здаецца, што гэта ў пэўнай меры датычыцца лепшых вершаў А. Зарыцкага, змешчаных у часопісе. «На гарадской ускраіне», «Птушка Іванчык», «А можа?..» — творы, у якіх адчуваецца жывая думка і непадробнае пачуццё, дзе «змест варты формы». Некаторымі сваімі вершамі А. Зарыцкі даводзіць, што паэтычная творчасць — працэс асэнсавання сябе ў «патоку гісторыі», што найпершы абавязак паэта, які ў сваіх творах абапіраецца на асабісты жыццёвы вопыт, імкнецца гаварыць з сучаснікамі арыгінальна, — гэта глядзець «из времени в вечность» (Фет).

У гэтым — непаўторнасць і харaство мыслення паэта.

Баратынскі гаварыў, што сапраўдныя паэты таму менавіта рэдкія, што не кожны мае ўласцівасці, якія цалкам супярэчаць адна адной: «полымя ўяўлення творчага і холад розуму паняраючага». Знітаванасць лірычнага і аналітычнага, шчырасць і філасофская заглыбленасць уласцівы для творчасці А. Русецкага. Да твораў сапраўднай мастацкасці і шырокага грамадска-філасофскага гучання з поўнай упэўненасцю можна аднесці такія яго вершы, як «Роздум», «Я цябе калісь уявіў...», «Няўтоленых, мабыць, вачэй наіўнасць...» Напрыклад, у апошнім вершы аўтар разважае:

**І я ў захапленні, патомны сейбіт,**
**на вока востры**
**і лёгкі ў хадзе,**
**не мог уявіць, што на ўсякай глебе**
**з калоссем тугім зябер зла расце.**
**Я гэту яву сабе нанова**
**у смутны,**
**пакутлівы дзень адкрыў,**
**і касназыкія болю словы**
**спякаліся ў даўкі нячутны крык,**
**і шастала поле маёй паперы,**
**і значыўся шлях**
**слупамі дат,**
**я ўбачыў, што час ідзе толькі**
**ўперад,**
**дарога ж можа ісці назад.**

Кожны паэтычны элемент, кожны мікравобраз у гэтых радках — як у сонечных промнях; праз іх можна разгледзець увесь спектр, адкрыць не адзін цуд. І гэтыя радкі не выключэнне. У сваіх вершах А. Русецкі сцвярджае, што застацца без актыўнай дзейнасці, без працы, на водшыбе, і без любові — найгоршае прыніжэнне і пакута для чалавека.

Чытаючы вершы А. Русецкага, прыходзіш да высновы, што душа сапраўднага паэта заўсёды падобна да растрывожанага мора, якое, гаворачы мовай вучоных, мае большую паверхню, чым спакойнае. Так, відаць, і ў паэзіі.

Агульнавядома, што паэт павінен прыкмячаць многае, бачыць далёка. Паэзія Генадзя Бураўкіна заўсёды падабалася мне за высокі душэўны напал, натуральнасць інтанацыі, дысцыпліну радка, дакладнасць і выразнасць мыслення, і яшчэ — за сваю бескампрамісную публіцыстычнасць і ў той жа час — шчыры, глыбокі лірызм, любоў да роднай зямлі, прыроды. Яшчэ, здаецца, дагэтуль адчуваеш усхваляванае дыханне паэта, непасрэдны голас лірыка-грамадзяніна, які гучыць са старонак яго апош-

## ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

**28 чэрвеня споўнілася 50 гадоў беларускаму крытыку і літаратуразнаўцу Івану Кудраўцаву. Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:**

**«Дарагі Іван Фёдаравіч!**

**Прыміце нашы сардэчныя віншаванні ў дзень Вашага 50-годдзя.**

**У дні Вялікай Айчыннай вайны Вы былі салдатам, удзельнічалі ў баях на Заходнім, Варонежскім, 1-м і 2-м Прыбалтыйскіх і Ленінградскім франтах.**

**Пасля дэмабілізацыі з арміі закончылі Беларускі дзяржаўны універсітэт, вучыліся ў аспірантуры.**

**На гэты час прыпадае пачатак Вашай творчасці. Рэцэнзіі, артыкулы, з якімі Вы сістэматычна пачалі выступаць у друку, вызначаліся баявітасцю, умельствам аналізаваць літаратурныя творы. Вашаму пяру належыць крытычна-даследчая праца «Кузьма Чорны», якая была прыхільна сустрэта чытачамі.**



**Варта адзначыць, што Вы прымалі ўдзел у складанні падручнікаў для школ і ў выпрацоўцы школьных праграм.**

**Жадаем Вам, Іван Фёдаравіч, моцнага здароўя, поспехаў у працы, шчасця».**

**Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання.**

«адкрывальніцкіх» казусаў! **Свой** густ, не падперты агульнаэстэтычнымі крытэрыямі, — адзін свой густ часта ашуквае. А потым — прэтэнзія на праўду горай за няпраўду. Вось пра гэта і помніць бы, беручыся хваліць твор, цешачыся са свае знаходкі, а рэшту — абы-як, абы-што, ледзь не скідаючы з лічыльнікаў». Мажліва, развагі гэтыя таксама не надта новыя, але **гэтак** падумалася там, на чужыне, і таму згаданы роздум пісьменніка ўражвае, прымушае задумацца.

Найбольш, бадай, уразіў мяне падраздзел «Тара: краіна ці абалонка», у якім М. Лужанін уздымаецца да шырокага, ледзьве не сімвалічнага абагульнення. Повадам да роздуму паслужыла амерыканская тара — упакоўка, абгортка, абклейка і г. д. І вось як развіваецца думка аўтара «Рэпартажу...»: «Справа ў тым, што часамі сённяшняя Амерыка здавалася пачварліва вялікай і без патрэбы моцнай **тарай, абалонкай** для краіны, якой яшчэ няма і якая абавязкова будзе, не можа не быць, бо занадта шмат патрачана намаганняў, каб стварыць умовы для дабрабыту, і занадта мала ў гэтым сённяшнім таго, што прынята называць чалавечым шчасцем і ўсмешкай. Краіна без усмешкі!...» І далей: «Але паняцце «тара» пашыраецца ў насельнікаў тутэйшых земляў у непажаданым для чалавека кірунку, прыкладна па такой схеме. Шклянка — тара віна, вады; касцюм — тара чалавека; дом — тара сям'і; галава — тара розуму, тара ідэй, спраў, здольнасці рабіць грошы і вынаходкі. І, як ні смутна, многія амерыканцы ставяцца да свае краіны як да тары на адно чалавечае жыццё — значыць, на адзін раз, як да папяровай пасудзінкі для сельтэрскай».

Прачытаўшы такое, сапраўды ўсклікнеш услед за пісьменнікам: «Сумна вам жыць у вашым новым свеце, гаспада!» Хочацца дадаць: сумна — за краіну, страшна — за яе народ.

Заканчваецца «Рэпартаж...» праніклівай карцінай «дэмакратыі ў яе агіднейшым цынізме», намаляванай... Аляксандрам Сяргеевічам Пушкіным у 1836 годзе. І зноў паўторыш услед за нашым пісьменнікам: «І як яны ўмелі так далёка сягнуць вокам, неўміручыя!»

«Рэпартаж з рубцом на сэрцы» — кніга важкая, па-грамадзянску страсная і бескампрамісная, па-пісьменніцку натхнёная і таленавітая.

**Мікола ГІЛЬ.**

---

няй кнігі «Жніво..» І вось — вершы з новай кнігі.

> Я ўдзячны лёсу,
> што па ўсе часы
> Мая блакітнавокая Радзіма
> Не засланяла мне чужой красы,
> Мяне ад свету не адгарадзіла,
> Што не магла, не ўмела быць
> другой —
> Жыла ў братэрстве і сяброў цаніла,
> І што ў краіне нашай дарагой
> Яе завуць усе сястрою мілай, —

пранікнёна гаворыць Г. Бураўкін у вершы «Удзячны лёсу...» У новых вершах паэт па-ранейшаму верны сабе: у іх — і страсная, прачулая споведзь, і глыбокі роздум аб Бацькаўшчыне, роднай прыродзе, каханні. У вершы «Вышэй за ўсё цаню я волю...» Г. Бураўкін піша:

> Я згодны выплаціць даніну —
> І на свой лёс не наракаць —
> Вам, паламаныя яліны,
> Табе, засохлая рака,
> Каб потым быў, як свой, прыняты
> У дол маўклівы і руды,
> Дзе спяць асеннія зярняты
> І даспяваюць жалуды...

Мне здаецца, што ў гэтым, ды і ў некаторых іншых вершах, паэт набліжаецца менавіта да таго ўзроўню паэтычна-вобразнага мыслення, калі змест твора нельга ўжо ні пераказаць, ні растлумачыць, але можна толькі адчуць, і то не інакш, як толькі так, як яно выйшла з-пад пяра паэта.

Часта бывае так, што, чытаючы раман, паэму, верш, мы можам забыцца і меркаваць, што здарэнні і падзеі, якія апісваюцца ў творы, ёсць не вымысел, але ісціна. Значыць, і ў большасці паэтычных твораў, надрукаваных у шостым нумары часопіса «Полымя», пераважае менавіта ісціна, бо амаль за кожным вершам адчуваецца непрыдуманае здарэнне альбо падзея, за кожным радком — пачуццё.

**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ.**

---

**Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне паэту Анатолю Вярцінскаму з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці бацькі.**

---

МАСКОЎСКІ МАЛЫ—У МІНСКУ

# ГАДЫ, РОЛІ, ТРАДЫЦЫІ...

*МІНСК РАЗВІТВАЕЦЦА з трупай Маскоўскага акадэмічнага Малога тэатра. У мінулых нумарах на старонках «Літаратуры і мастацтва» расказвалася пра творчыя здабыткі трупы, пра спектаклі гасцей, пра сустрэчы артыстаў з працоўнымі беларускай сталіцы, пра наведванне масквічамі выдатных мясцін горада, Хатыні, Кургана славы. Сёння мы знаёмім чытачоў з думкамі і ўражаннямі ад гастролей аднаго з самых яркіх майстроў тэатра, актрысы, чыё імя ўпрыгожвае гісторыю Малога апошняга паўстагоддзя — Алены Мікалаеўны Гогалевай. Народная артыстка СССР, яна вядомая гледачу краіны як адмысловы і дасканалы ў сваім мастацтве майстар, мастак-грамадзянін. Пра такіх артыстаў слушна гавораць, што яны ствараюць аблічча тэатра, характарызуюць яго ідэйна-мастацкі ўзровень.*

У прасторным нумары гасцініцы «Мінск» за нізенькім журнальным столікам сядзіць у крэсле немаладая жанчына, твар якой знаёмы па фатаграфіях, па тэлевізійным экране...

— Вы ўжо даруйце, як заўсёды, перад спектаклем хвалююся, увечары іграем «Здані», — гаворыць яна.— Дык якія ж пытанні вас цікавяць?

— Алена Мікалаеўна, у журналістаў ёсць заўсёды традыцыйнае пытанне аб уражаннях ад сустрэч з горадам і яго людзьмі. Якое ж ваша ўражанне ад сённяшняй сустрэчы з Мінскам, сустрэчы з Беларуссю?

— Пытанне сапраўды традыцыйнае. І тым не менш адказваць на яго заўсёды прыемна, тым больш у такім цудоўным горадзе, як Мінск. Канечне, тут я не ўпершыню. Аб тым, што Мінск змяніўся, гаворыць хоць бы тое, што ў час майго першага прыезду ў ваш горад гасцініцы, у якой мы размаўляем, не было і ў паміне.

Мінск не можа не падабацца. Сёння раніцай я прайшла па яго цудоўных вуліцах і адчула сябе так, быццам пражыла тут шмат гадоў. Усё тут роднае і блізкае. Мінчане — людзі гасцінныя і простыя. Мне здаецца, што тое велізарнае агульнае гора, якое перажывала ваша рэспубліка ў гады вайны, зрабіла народ Беларусі яшчэ больш спагадлівым, добрым і чулым.

Не магу не сказаць аб тым вялікім уражанні, якое зрабіў на мяне мемарыяльны комплекс у Хатыні, гэта сапраўды дастойны помнік ахвярам вайны. Праўда, мне здаецца, што там малавата экскурсаводаў. Я трапіла туды ў абедзенны час, мусіць, быў перапынак і ў работнікаў мемарыяла. А ў гэты час па тэрыторыі хадзіла некалькі груп школьнікаў. Відаць было, што яны не ўсё разумеюць. І ніхто нават не спрабаваў ім растлумачыць тую найвялікшую трагедыю, якую перажыла Хатынь. Так і паехалі дзеці, многае не зразумеўшы. Крыўдна. Думаю, становішча такое можна і трэба выправіць.

— Дзякуй за заўвагу. Будзем спадзявацца, што адпаведныя арганізацыі пастараюцца не дапускаць падобных памылак. Алена Мікалаеўна, раскажыце, калі ласка, аб вашых сустрэчах з дзеячамі беларускага мастацтва.

— На жаль, па-сапраўднаму моцных творчых сувязей у мяне з беларускімі акцёрамі, мастакамі, музыкантамі няма. Бо сустракаемся мы звычайна только ў час гастролей. Але сустрэчы з вашай выдатнай спявачкай, актрысай і, дадам, з цудоўным чалавекам Ларысай Пампееўнай Александроўскай заўсёды ўспамінаю з задавальненнем. І з радасцю сустракаюся з ёй яшчэ і яшчэ раз...

*Тут хочацца перапыніць наша інтэрв'ю і зрабіць невялікае адступленне. Справа ў тым, што адказы на гэтыя традыцыйныя пытанні нечакана дапоўнілі іншыя акцёры Малога тэатра — удзельнікі сустрэчы артыстаў з работнікамі друку Мінска. Кожны, хто б ні выступаў там, гаварыў аб сваіх сустрэчах з Беларуссю, у кожнага былі звязаны з ёй свае ўспаміны, свае думкі. Народная артыстка РСФСР Т. Ерамеева расказала аб тым, як пачынала яна свой артыстычны шлях у Магілёўскім тэатры. Разам з гэтым тэатрам яна ўпершыню наведала беларускую сталіцу амаль сорак гадоў назад. Народны артыст СССР І. Любезнаў успомніў ваенны Мінск, які давялося яму ўбачыць на трэці дзень пасля вызвалення. Некалькі разоў бываў у нашым горадзе і народны артыст СССР М. Анненкаў, сем гадоў працаваў у тэатры імя Янкі Купалы заслужаны артыст БССР Р. Філіпаў.*

*Па рознаму звязваў лёс людзей з Беларуссю. Але кожны гаварыў у гэты дзень словы глыбокай удзячнасці ёй і яе народу за яго працу, за яго мужнасць, за подзвіг...*

Але вернемся да нашай гутаркі з Аленай Гогалевай.

— Вы дэбютавалі на сцэне Малога тэатра ў 1918 годзе ў ролі Джэсікі ў «Венецыянскім купцы». У той вечар Праўдзін, які іграў у спектаклі галоўную ролю, падвёў вас да рампы і прадставіў гледачам новую актрысу. З таго часу вамі сыграны амаль увесь класічны жаночы рэпертуар. Скажыце, калі б вам давялося дэбютаваць сёння, што б выбралі для дэбюта?



— О, гэта складанае пытанне! Бо за гэты час сапраўды сыграна маса выдатных роляў. І Соф'я ў «Горы ад розуму», і лэдзі Мільфард у «Каварстве і каханні», і Юдзіф ва «Урыэлі Акосце», і Панова з «Любові Яравой», і цэлая галерэя цудоўных вобразаў Астроўскага. Словам, выбар быў бы цяжкі. Але, думаю, выбрала б што-небудзь з класічнага старога рэпертуару.

— Але ёсць жа ў вас любімыя ролі!

— Канечне, ёсць. Адна з самых любімых — герцагіня Мальбара ў «Шклянцы вады». Гэты спектакль знаёмы многім, дзякуючы яго экранізацыі. Іграла я ў ім амаль 30 гадоў! Любіла іграць і Панову ў «Любові Яравой». Гэта адна з самых удалых работ. Ну, а з апошніх роляй — фру Альвінг са «Зданяў».

— Самыя памятныя для вас спектаклі?

— Думаю, гэта была прэм'ера горкаўскага «Старога» ў 1919 годзе. Гэта была першая п'еса Горкага ў нашым тэатры. На прэм'еры прысутнічаў У. І. Ленін. Праўда, тады мы, шчыра кажучы, не разумелі ўсёй велічы моманту. Проста разбірала цікавасць: які ён, наш правадыр?..

Вельмі запомніліся спектаклі п'есы «Любоў Яравая». Па сутнасці, гэта была першая дасканалая па ідэйных і мастацкіх якасцях п'еса з вобразамі герояў Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі...

— За гэтыя гады вам, відаць, даводзілася сустракацца на сцэне з выдатнымі майстрамі?

— Так, мне пашчасціла іграць з Южыным, Садоўскім, немагчыма забыць работу з Астужавым у спектаклі «Урыэль Акоста». Застала я і Ярмолаву. Трэба сказаць, што ўсе яны з якойсьці асаблівай любоўю адносіліся да моладзі, шмат працавалі з намі. Помню, як у час рэпетыцыі «Электры» мяне пазвала Ярмолава, пагаварыла са мной, дала некалькі парад, якія запомніліся на ўсё жыццё. Тады ўмелі выхоўваць моладзь!

— А цяпер? Ці падтрымліваецца гэта традыцыя?

— У нечым падтрымліваецца, у нечым, на жаль, не. І не толькі ў нашым тэатры. Напрыклад, Южын выхоўваў нас на Шылеры, Мальеры, Шэкспіры. Гэта было правільна, таму што памагала зразумець сапраўдную сілу мастацтва тэатра, памагала знайсці сваё месца ў ім, нарэшце, проста памагала развіваць голас, мову. Цяпер, мне здаецца, гэты момант упускаецца ў падрыхтоўцы акцёра. Я, напрыклад, люблю артыстаў «Современника». Але з іх манерай гаворкі згадзіцца не магу. Яна невыразная, не тэатральная.

Забываюць часам у нас і аб спорце, як сродку паляпшэння пластыкі, сцэнічнага руху. Мы звярталі на гэта вялікую ўвагу. Тое ж самае можна сказаць і аб танцы. А як ён упрыгожвае спектакль! Той, хто глядзеў у тэатры імя Вахтангава спектакль «Антоній і Клеапатра», можа і не згаджацца з трактоўкай вобраза Антонія, якую дае Міхаіл Ульянаў. Але паглядзіце, як ён танцуе! Гэта ж і ёсць гатовы вобраз! Як тут не ўспомніць добрым словам шчукінскую школу. Яе вучні выдатна гавораць, рухаюцца, танцуюць. І да гэтай школы я адчуваю найвялікшую павагу...

— І апошняе, зноў традыцыйнае пытанне. Над чым працуе сёння тэатр?

— Мы рыхтуемся да вялікай даты — 150-годдзя з дня нараджэння Астроўскага. Рыхтуем цэлую серыю спектакляў вялікага рускага пісьменніка. Ігар Ільінскі ставіць «Лес». Рэжысёр Васільеў працуе над спектаклем «Багна». Дарэчы, Кісельнікава тут іграе папулярны сёння Юрый Саломін. І нават на першых рэпетыцыях у яго шмат знаходак. Аднаўляем мы спектакль «Ваўкі і авечкі», у старой пастаноўцы Прова Садоўскага. Рэжысёр Леанід Варпахоўскі паставіў «Шалёныя грошы», дзе вельмі харошая, на мой погляд, Быстрыцкая...

*Усе аматары тэатра Беларусі жадаюць Малому тэатру вялікіх поспехаў і творчых удач! Спадзяемся апладзіраваць яму ў Мінску яшчэ не раз...*

**Б. ГЕРСТАН.**

---

# ПЕРШАЕ МЕСЦА—АДНАГАЛОСНА!

**На мінулым тыдні закончыўся IV міжрэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў, які праходзіў у Вільнюсе.**

**Наша газета пісала ўжо пра тое, што першыя два туры прайшлі для пасланцоў Беларусі ўдала. Пасля трэцяга туру былі аб'яўлены пераможцы.**

**Першае месца сярод скрыпачоў заваяваў былы выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага (клас дацэнта Н. Браценнікава) артыст ансамбля «Песняры» В. Бадзьяраў. Другое месца сярод піяністаў заняў вучань Мінскай сярэдняй спецыяльнай музычнай школы І. Алоўнікаў (клас дацэнта Я. Цвятаевай). Другое месца сярод вакалістаў прысуджана выпускніку Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі М. Майсеенку (клас дацэнта С. Асколкава). Заахвочвальны дыплом атрымала студэнтка кансерваторыі Н. Казлова (вакал).**

**— Як праходзіў сёлетні конкурс, чым ён быў адметны? — з гэтымі пытаннямі наш карэспандэнт Р. Бакуновіч звярнулася да загадчыка кафедры струнных інструментаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі дацэнта Н. Браценнікава, які ўзначальваў журы конкурсу скрыпачоў у Вільнюсе.**

— Па-першае, прадстаўніцтвам. На чацвёртым конкурсе кожная з пяці рэспублік прыслала больш удзельнікаў, чым у мінулыя разы. Ад Беларусі тут было сем скрыпачоў. Літва, Латвія, Эстонія і Малдавія даслалі адпаведна — па шэсць, чатыры і тры чалавекі. Кожны з іх быў гатовы ўступіць у спаборніцтва і змагацца за першынство.

На папярэдніх конкурсах нашы ўдзельнікі на трэці тур нават не пападалі. А тут, як кажуць, лёд быў зломлены. Ну, а пра вынікі гэтай барацьбы вам вядома.

Скажу толькі, што за Бадзьярава (першае месца) усе члены журы галасавалі аднагалосна. Больш таго, было адзначана незвычайная, выдатная адоранасць гэтага скрыпача. А ён выконваў творы, я б сказаў, на вышэйшай ступені складанасці. Другі канцэрт Шастаковіча, які іграў скрыпач на заключным туры, — твор складаны і па сваёй філасофскай канцэпцыі і па фактуры. Гэта можна сказаць, — мяжа цяжкасці. І пасля таго, як Бадзьяраў яго выканаў, — канкурэнтаў у яго ўжо не было.

Выдатныя здольнасці прадэманстраваў і І. Алоўнікаў, вучань 10 класа сярэдняй школы. Наперадзе гады працы, удасканальвання майстэрства. Багацейшым голасам валодае і наш трэці пераможца конкурсу М. Майсеенка, які мог бы, на мой погляд, прэтэндаваць і на больш высокае месца.

Магу сказаць, што ступень прафесіяналізму і падрыхтоўкі нашых вучняў была аднолькава высокай у кожным асобным выпадку. Лёс вырашала ступень асабістай адоранасці.

Гэты конкурс — наша першая вялікая перамога. Спадзяюся, што ў бліжэйшы час мы здолеем прыняць удзел у спаборніцтвах на самым высокім узроўні. А яны — не за гарамі. У лістападзе адбудзецца Усесаюзны конкурс маладых выканаўцаў. Адным словам, супакойвацца і адпачываць на лаўрах няма калі.

## Паэтычная ПАВЕРКА

### Пятро ГАРЭЦКІ

●

Калі не адчуваеш ты зямлі,
Як да нябёс ты здолееш
падняцца?
Каб крылы аж да зорак узнялі,
Патрэбны розум, мужнасць
сэрца, праца.

Калі не адчуваеш ты зямлі,
Ну, як ты здольны ўглыб
пусціць карэнні?
Каб злыя буры не перамаглі,
Патрэбна сэрца і душы гарэнне.

Калі не адчуеш ты зямлі,
Як ты жыцця адчуеш асалоду:
Красу палёў, цвіценне на галлі,
І шчырасць песень роднага
народу.

●

Любуюся і ганаруся
Калоссем ніў і звонам рэк.
У вас я сілы набяруся,
Каб славіць свой цудоўны век.

Дакор былому я не кіну,
Паклон наступным дням, вясне.
Я песні ўсе аддам краіне, —
Жыві такой любоў ва мне.

Пераклаў з украінскай
А. АСТРЭЙКА.

### Міхась РУДКОЎСКІ

●

Як развітальны твой пагляд—
Апошні промень. Небакраем
На крылах лёгкае тугі
У вырай гусі адлятаюць,
Ці то да нас лятуць снягі.

●

Сяджу набітым дурнем
за сталом:
Ліст белы, быццам снег,—
ні рыфм, ні слоў.
Кляну сябе, што з імі
я звязаўся.
На лесвіцы пачуў таропкі
крок —
І ліст ажыў. Ажыў! На ім
застаўся
Слядоў дзявочых роўны
ланцужок.

●

Яно непазбежна растане,
Бы голас, бы рэха ў бары...
Вазьмі ж у дарогу світанне,
Рыбацкі агонь забяры.

І гоман вясёлы кашары,
І першы крынічніка цвет,
І лайнера след над абшарам,
І княжыча-месяца след.

Вазьмі на ўспамін верасовы
За першааснову ўсяго
Адвечнае матчына слова,
Пяшчоту і сілу яго.

Яно табе, дзе ты ні будзеш,
У радасцях і у журбе
Напомніць, што ёсць недзе
людзі,
Якія чакаюць цябе.

### Сяргей ПАНІЗНІК

## УСПАМІНАК ЛЕТА

Аблачынаю поўня прытушана.
Пройдзем, любая, цераз парк.
Вось чабор—палажы
пад падушку:
хай прысніцца зялёны папар.
Пасівее палын ля прысад,
задзічэюць далёкія гумны,
на падлогі скрыпучыя хат
ступіць восень—счужэла
і сумна.
І калі непрыручанай птушкай
лета ўсё-такі вырвецца з рук—
ты чабор палажы пад падушку
і прысні вось такую пару.

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

# СЛУХАЮЧЫ ЧАС, АДЧУВАЮЧЫ ЖЫЦЦЁ

*ЗАСЛУЖАНАМУ ДЗЕЯЧУ МАСТАЦТВАЎ БССР Г. ВАГНЕРУ — 50*

**ВУЧАНЬ народнага артыста БССР Анатоля Багатырова па кампазіцыі і Рыгора Шаршэўскага па фартэпіяна, вядомы ў рэспубліцы і за яе межамі кампазітар Генрых Вагнер мае яркія творчыя здабыткі ва ўсіх жанрах музыкі. Ім напісана многа песень, якія набылі шырокую папулярнасць, музыка балетаў «Святло і цені», «Падстаўная нявеста» і «Пасля балю», опера «Ранак» па матывах паэмы А. Куляшова «Песня аб слаўным паходзе», вакальна-сімфанічная паэма «Вечна жывыя», сюіты для салістаў, хору і аркестра, музыка да кінафільмаў, тэатральных спектакляў і тэлевізійных перадач... Як гаворыцца ў «БелСЭ», яго творчасці «ўласцівы пластычнасць і нацыянальная акрэсленасць меласу, гукавая маляўнічасць, драматычна-напружанае развіццё музычных вобразаў». Ён сакратар кампазітарскай арганізацыі рэспублікі, член праўлення Саюза кампазітараў СССР.**

**Музыказнаўца Т. Шчарбакова дзеліцца сваімі ўражаннямі ад апошняй работы кампазітара, у якой праявіліся пэўныя характэрныя рысы яго творчай індывідуальнасці наогул.**

НОВЫ ТВОР сталага кампазітара бывае часта зусім нечаканым. Гэта здараецца і тады, калі, здаецца, аўтар або каментатары ўжо далі слоўныя тлумачэнні таму, што «гучыць». Другая сімфонія Г. Вагнера — з такіх твораў. Яна і здзівіла і ўзрадавала. Слухаючы яе, быццам адкрываеш нанава музыканта са стылем, які ў яго склаўся, з вобразнымі асацыяцыямі, замацаванымі памяццю, з яркімі дэталямі музычнай мовы. Новы твор багаты свежымі і глыбокімі думкамі, строгі і стройны па форме. Гэта гаворыць аб уменні кампазітара не толькі ўзбагаціць прывычнае, але і раскрыць лепшае ў сабе найбольш дакладна.

У галоўным —сімфонія непадобная ні на адзін з вядомых праграмных твораў Г. Вагнера. Тут няма экстатычнасці музыкі балета «Святло і цені», няма глыбістых гучанняў «Вечна жывых», не сустрэнеш рэзкіх вобразных пераключэнняў: ад панурай чарнаты фарбаў да празрыстага святла, што так уласціва балету «Пасля балю».

Выключыўшы драматычны элемент амаль поўнасцю, кампазітар стварыў Другую сімфонію як свет ясных даляў, летуценных танцаў-мараў і радасна нястрымнага руху. Яе мастацкая цэласнасць — ва ўзаемадзеянні розных адценняў светлага, у змене вонкавых форм руху і вобразных пераўвасабленняў адной — дзвюх пачатковых фраз у іншых частках твора.

Канечне, асобныя ўласцівасці музыкі Другой сімфоніі падрыхтаваны ілюзорнасцю лірыкі «Пасля балю», яго класічна строгай Паванай на тэму Г. Пёрсела, выразным кантрастам архаічнага аблічча суровай Пасакаліі Першай сімфоніі, пругкімі і імклівымі крайнімі часткамі гэтага цыкла. Важны і вопыт кампазітара ў дэталёвым развіцці буйной інструментальнай формы ў «Вечна жывых», у фартэпіянным канцэрце.

У новай сімфоніі Г. Вагнер сродкамі музыкі перадаў адчуванне аб'ёмнасці часу. У агульным характары гучання музыкі нашых дзён узнікаюць празрыстыя сілуэты былога — павольныя рытурнелі чэмбала, у дасціпную ігру са струнным квінтэтам уступаюць саліруючыя габой і валторна, фартэпіяна і літаўры.

Партытура камернай сімфоніі невялікая — усяго 19 мінут гучання. Але мінуты гэтыя вельмі напоўненыя. Кампазітар мысліць афарыстычна. Тут няма спрошчанасці, але якая ясная і даступная гэта музыка! Яна цалкам авалодвае увагай слухача.

Гэтаму ў немалой ступені садзейнічае і тое, што ўмоўна можна назваць інструментальным сцэнары-

РЭПАРТАЖ З ВДНГ СССР

# СЛАЎГАРАДЦАЎ СЛУХАЕ МАСКВА



Слаўгарадскі хор на Цэнтральнай эстрадзе ВДНГ СССР.

Вялікія пано ля ўваходу на Усесаюзную выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі, яркія маляўнічыя афішы запрашаюць масквічоў і гасцей сталіцы на агляд лепшых самадзейных ансамбляў песні і танца, які праходзіць на ВДНГ СССР, на плошчы «Дружба народаў» і ў павільёне «Савецкая культура».

У гэтым аглядзе - конкурсе прымаюць удзел ансамблі з усіх саюзных рэспублік.

Амаль 4 тысячы таленавітых прадстаўнікоў самадзейнага мастацтва атрымалі права выступіць у творчым спаборніцтве.

Цікавасць да агляду вялікая. Толькі за першы месяц на яго канцэртах пабывала каля дваццаці тысяч масквічоў, гасцей сталіцы і працаўнікоў падмаскоўных калгасаў і прадпрыемстваў, куды часта выязджаюць удзельнікі агляду з творчымі справаздачамі.

Агляд - конкурс, які пачаўся ў маі, працягнецца да верасня. Ужо выступілі ансамблі з Украіны, Узбекістана, Куйбышаўскай вобласці, РСФСР і гэтымі днямі з поспехам прайшлі выступленні прадстаўніка Беларусі, які ўпершыню выступае ў Маскве —

ТВОРЫ Я. КУПАЛЫ І Я. КОЛАСА НА САМАДЗЕЙНАЙ СЦЭНЕ

# ГАРТАЮЧЫ

ЦЯЖКА ЗНАЙСЦІ сёння ў рэспубліцы завод, новабудоўлю, калгас, дзе б не працавалі самадзейныя калектывы. Кожны вечар сотні і тысячы гледачоў ідуць на яркія агеньчыкі, што загараюцца ў вокнах палацаў культуры і клубаў. Аб выдатных дасягненнях нашага самадзейнага мастацтва яскрава сведчаць агляды і конкурсы народных тэатраў, прысвечаныя 50-годдзю ўтварэння СССР, якія праходзяць у раёнах і абласцях.

Абласны конкурс народных тэатраў Міншчыны распачаўся спектаклем «Вайна вайне» па п'есе Я. Коласа, які паказаў калектыў народнага тэатра трактарнага завода.

Упершыню драма Я. Коласа «Вайна вайне» была пастаўлена на сцэне Віцебскага тэатра (цяпер тэатра імя Якуба Коласа) у 1937 г. Яна мела выключны поспех. На жаль, пасля гэтага нават з прафесійных тэатраў ніводзін не паставіў гэты класічны твор на сваёй сцэне. Чамусьці некаторыя нашы рэжысёры і акцёры лічаць, што п'еса «Вайна вайне» прызначана для чытання, а не для пастаноўкі на сцэне. Спектакль «Вайна вайне», пастаўлены на сцэне народнага тэатра трактаразаводцаў, абвяргае такія меркаванні. П'еса Я. Коласа захапіла калектыў сваімі драматычнымі канфліктамі, падзеямі, жывой сакавітай, паэтычнай мовай, народнай мудрасцю, яркімі вобразамі людзей, якія імкнуцца да барацьбы за шчасце і свабоду..

Калектыў разумеў, які адказны экзамен чакае яго, разумелі гэта і натхніцелі спектакля заслужаны работнік культуры А. Бяляеў, а таксама народны артыст СССР П. Малчанаў, які стаў душой пастаноўкі «Вайна вайне». Павел Сцяпанавіч, дарэчы, з'яўляўся адным са стваральнікаў першага спектакля на прафесійнай, коласаўскай, сцэне.

Рэжысёры спектакля і мастак В. Кульваноўскі знайшлі правільнае і сучаснае вобразнае рашэнне п'есы Я. Коласа «Вайна вайне».

Галоўным героем п'есы з'яўляецца народ, спектакль і пачынаецца з абразка старой забітай вёскі, у якую ўрываецца земскі начальнік Будан-Рыльскі (В. Лісоўскі), стараста (А. Бяляеў) і паліцэйскі ўраднік Шышла (М. Сыман), якія паведамляюць пра царскі ўказ аб усеагульнай мабілізацыі.

Хвалююча паказаны і масавыя сцэны на фронце, дзе царскія афіцэры бязлітасна распраўляюцца з салдатамі за адно толькі слова аб свабодзе. Драматычна і ўзнёсла праходзіць фінальная сцэна ў той жа самай вёсцы, калі вызваляе чырвонаармейскі атрад. Жыхары вёскі не толькі вітаюць сваіх абаронцаў і вызваліцеляў, але ідуць разам з імі на барацьбу за Савецкую ўладу.

У спектаклі «Вайна вайне» поўным голасам гаворыць рэвалюцыянер-рабочы Патап Думака (М. Варывода), мужны барацьбіт за шчасце і свабоду свайго народа. Праз увесь спектакль праходзіць вобраз Алеся (Г. Куцькін) — мужнага салдата рэвалюцыі. Асабліва эмацыянальна праводзіць Алесь — Г. Куцькін сцэну развітання з Марынай (Т. Крамарэнка). А як шчыра і непасрэдна глядзіцца сустрэча Марыны з Алесем на фронце!

Яркія характэрныя вобразы дзеда Мікіты, бабкі Таццяны і старога салдата стварылі М. Шутаў, В. Крамарэнка, Г. Пушкевіч.

На жаль, «выбіваецца» з ансамбля выканаўцаў М. Сыман (ураднік Шышла). Іграе ён прасталінейна, «у лоб» і тым самым прыніжае характар жорсткага прадстаўніка ўлады. Шышла — сур'ёзны вораг рэвалюцыі, які на даве-

ем камернай п'есы ў 4-х актах. Кожная «дзейная асоба» (саліруючыя інструменты) і «хор» (струнныя) выконваюць вобразна самастойную функцыю. Так у другой частцы сімфоніі струнныя выступаюць з музыкай гібкага ажыўленага руху, гучанне якой няспынна нарастае. Прыглушаны паток струнных прарэзваюць адзіночныя воклічы валторны, якія настойліва сцвярджаюць рэплікі літаўр. Габой спявае сумна, пяшчотна. Гэта і сялянская песня, і ласкавая размова, і плаўнае кружэнне ў танцы.

Пачуццё рытму, па-мойму, самы моцны бок музычнай мовы кампазітара. Яно адчуваецца ў кожнай, вялікай і малой яго рабоце. Г. Вагнер мысліць рытмам не толькі па гарызанталі і не толькі адлічвае такт у танцы, прыпеўцы, арыі, песні. Рытмічнае пачуццё кампазітара шматмернае, паліфанічнае. Аб вынаходлівасці полірытмічных камбінацый гавораць балеты Г. Вагнера — натуральна ўласцівы кампазітару жанр — і інструментальныя цыклы.

Шляхам вельмі дакладнага адбору, мінімальнымі сродкамі ў кампактных формах новай сімфоніі Г. Вагнер правёў змястоўную метра-рытмічную работу. Арыгінальныя «пульсацыі» асобных тэм спалучаюцца ў сімфоніі з нястомным рухам скразнога патоку астынато. Ён няспешны і «цякучы» ў задумліва сумнай інтрадзе, у распеўных раздзелах Санаты, у сімфанічнай Інтэрлюдыі. Там жа, дзе музыка поўная кіпення жыццёвых сіл, яе ўзбуджаны пульс рэзка прачэрчаны, акцэнтаваны жорсткімі сугучаннямі фартэпіяна, ударамі літаўр (такія — спружыністыя, імкліва палётныя раздзелы фіналу).

Астынатнасць — даўно вызначаная ўласцівасць музычнай тэхнікі кампазітара, якая асабліва тыповая для яго музычнай драматургіі. У «Вечна жывых» нязмоўклыя «крокі» літаўр увасабляюць немінучасць смерці. Музыка роспачы ў «Святле і ценях» перадае шаленства жэстыкуляцый і сляпы фанатызм сектантаў. Злавесны «марш шпіцрутэнаў» выражае жудасны сэнс сцэны забойства салдата ў балеце «Пасля балю».

Своеасаблівая драматургічная роля астынато ў Другой сімфоніі. Тут дакладныя, тонка выпісаныя рытмічныя пункцірныя лініі змацоўваюць празрыстую, паветраную тканіну музыкі лірычных успамінаў. І ў гэтых метамарфозах астынато таксама крыецца сакрэт навізны агульнага аблічча новага твора.

Як мне думаецца, у адмаўленні ад масіўных структур і гучанняў, у сапраўды творчым самаабмежаванні праяўляецца ўласцівая Г. Вагнеру патрэба працаваць у розных музычных стыхіях. Кампазітар, якому гэтымі днямі споўніцца пяцьдзесят год, па-маладому дапытлівы і нястомны ў рабоце.

Убачыць, валодаць, ведаць для таго, каб аддаць людзям, прынесці ім радасць, навучыць іх лепш адчуваць і разумець жыццё — хіба не ў гэтым сапраўдны сэнс работы мастака!

**Т. ШЧАРБАКОВА.**

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# АБЛІЧЧА АЎТАРА, АБЛІЧЧА ЧАСОПІСА, АБЛІЧЧА МАСТАКА...

**ІЛЮСТРАЦЫЯ ў часопісе...**

Здаецца, яшчэ ніколі не даводзілася нам бачыць малюнкі, якія ўпрыгожваюць нашы часопісы, сабранымі ў экспазіцыі адной выстаўкі. Звычайна, раскіданыя па розных выданнях, зробленыя рознымі мастакамі ў розны час, яны праходзілі па-за ўвагай нашай мастацкай грамадскаці і крытыкі. Таму вельмі цяжка было ўявіць сабе нейкую сістэму, якой падпарадкоўваецца беларуская часопісная графіка, зрабіць нейкія агульныя высновы пра стан гэтага цікавага графічнага жанру, пра ўзровень, на якім працуюць у ім беларускія мастакі.

Выстаўка часопіснай графікі, адкрытая у памяшканні Саюза мастакоў Беларусі, у нейкай ступені выпраўляе гэтае становішча, хаця, канечне, яе нельга лічыць вычарпальнай — нават пры беглым аглядзе можна заўважыць, што некаторыя мастакі забыты або прадстаўлены недастаткова поўна і не самымі лепшымі сваімі работамі.

Але, нягледзячы на гэта, першая выстаўка беларускай часопіснай графікі ўсё ж такі атрымалася паказальнай і цікавай у тым сэнсе, што дае пэўнае ўяўленне аб агульных напрамках пошукаў нашых графікаў у гэтым жанры, аб культуры афармлення беларускіх часопісаў.

На жаль, на выстаўцы беларускай часопіснай графікі мы не адчулі і імкнення мастакоў вырвацца за рамкі простага пераказу таго ці іншага эпізоду літаратурнага твора, надаць ілюстрацыі значэнне самастойнага, раўнапраўнага элемента ў фарміраванні аблічча часопіса.

Нашы мастакі пакуль вельмі нясмела і не заўсёды дарэчы ўжываюць новыя тэхнічныя прыёмы (накшталт калажа, аплікацый), мала працуюць ў матэрыяле, не заўсёды намагаюцца знайсці найбольш арыгінальныя кампазіцыйныя рашэнні, не заўсёды ўмела выкарыстоўваюць набор, як элемент, здольны выконваць адпаведныя эстэтычныя задачы.

Зразумела, ілюстрацыя ў часопісе—твор мастацтва, і адказнасць за яе якасць нясе перш за ўсё аўтар. Але было б не вельмі справядліва, калі б мы ўсе нашы прэтэнзіі да беларускай часопіснай графікі аднеслі на рахунак мастакоў. Многае залежыць і ад рэдакцый часопісаў, якія заказваюць афармленне, ад узроўню іх патрабаванняў.

Пра тое, што гэтыя фактары зусім не другарадныя, між іншым, сведчыць і выстаўка беларускай часопіснай графікі.

«Маладосць», «Неман», «Беларусь» «Работніца і сялянка», «Бярозка», «Вясёлка», «Літаратура і мастацтва»—вось выданні, якія пастаянна і актыўна супрацоўнічаюць з мастакамі, ілюстрацыі з якіх мы бачым у экспазіцыі выстаўкі.

Аўтарскі актыў мастакоў, якія супрацоўнічаюць з гэтымі часопісамі, амаль стабільны. Прозвішчы І. Давідовіча, А. Волкава, А. Кашкурэвіча, У. Пашчасцева, В. Шаранговіча, В. Шрамякова, Ю. Пучынскага, Я. Куліка мы сустракаем амаль ва ўсіх названых вышэй выданнях. Але вось што цікава — толькі некаторым з іх удаецца захаваць свой індывідуальны почырк, па якім іх можна пазнаць на старонках розных часопісаў. Узровень патрабаванняў рэдакцый актыўна ўплывае на ўзровень выканання ілюстрацый. Калі, напрыклад, часопіс «Маладосць», які ўвогуле вызначаецца культурай афармлення, прад'яўляе мастакам высокія патрабаванні, то і мастакі намагаюцца быць на ўзроўні гэтых патрабаванняў —шукаюць, фантазіруюць, спрабуюць. А побач работы тых жа мастакоў, зробленыя для «Бярозкі» і, здаецца, мы трапляем у свет іншага вымярэння — тыя ж імёны стаяць пад сумнымі, квёлымі, часам нават не вельмі «смачнымі» малюнкамі. Тое ж становішча і ў «Беларусі», і ў «Работніцы і сялянцы», і, іншы раз, у «Немане».

Дарэчы, пра «Неман». Гэты часопіс карыстаецца папулярнасцю не толькі ў Беларусі. Ён разыходзіцца і па другіх рэспубліках — несучы інфармацыю не толькі пра стан нашай, беларускай, літаратуры, культуры, але і пра наша ілюстрацыйнае ўменне, пра нашу культуру часопіснай графікі. Таму, відаць, рэдакцыя гэтага часопіса павінна больш прынцыпова ставіцца да свайго ілюстрацыйнага матэрыялу, сачыць за тым, каб побач з вельмі цікавымі, напрыклад, ілюстрацыямі Г. Паплаўскага, А. Кашкурэвіча не стаялі значна больш слабыя малюнкі Г. Скамарохава, Г. Грака, Л. Шакінкі, ілюстрацыі якога да рамана Ж. Сіменона «Мегрэ і гандляр віном» знаходзяцца проста па-за межамі мастацтва.

Відаць, рэдакцыям нашых часопісаў трэба пашыраць і кола аўтараў, шукаць новыя, маладыя сілы больш прыцягваць да супрацоўніцтва вядомых таленавітых графікаў старэйшага пакалення. Мне здаецца, што ілюстрацыі такіх мастакоў, як Б. Забораў, У. Дэмарын, В. Шаранговіч, Г. Паплаўскі, А. Паслядовіч, Я. Ціхановіч, І. Немагай, маглі б часцей з'яўляцца на старонках нашых часопісаў — як тоўстых літаратурных, так і тонкіх, дзіцячых.

Малюнак для дзяцей — гэта быццам жанр у жанры. Ён падпарадкоўваецца тым законам, па якіх жыве ўся часопісная графіка, і ў той жа час мае нейкія свае, толькі яму ўласцівыя рысы. Такі малюнак, напэўна, павінен быць больш непасрэдным, больш асацыятыўным, у ім павінна літаральна фантанам біць фантазія, вынаходлівасць, даступнасць. Не кожнаму мастаку гэта па плячы не кожны здольны пранікнуць у свет дзіцячых вобразаў. Я ўжо казаў пра ілюстрацыі да «Бярозкі», якія вызначаюцца «лабавым» вырашэннем тэмы, манатоннасцю невысокім густам А вось малюнкі да «Вясёлкі» — хаця і не заўсёды роўныя — прываблiваюць радасным светаадчуваннем, вынаходлівасцю. Яны сапраўды нагадваюць вясёлку — шматколерную, радасную, якая разгараецца пасля цёплага летняга дажджу і выклікае ў нас пачуцці гарэзлівасці і летуценнасці.

Рэдакцыя гэтага часопіса здолела адкрыць для сябе, для сваіх чытачоў цікавых мастакоў, якія добра разумеюць свет, у якім жывуць дзеці, і не саромеюцца шчыра радавацца тым умоўнасцям, на якіх трымаецца гэты свет. Сярод іх П. Драчоў, Я. Кулік, У. Пашчасцеў, І. Іскрынская, А. Грубіна.

У заключэнне гэтых кароткіх нататкаў пра выстаўку беларускай часопіснай графікі хацелася б сказаць некалькі слоў аб экспазіцыйнай культуры.

У апошні час у Саюзе мастакоў БССР даволі часта наладжваюцца розныя выстаўкі. На жаль, культура іх афармлення, культура складання этыкетак настолькі нізкая, што гэта проста не да твару такой паважанай арганізацыі. Выстаўка ж часопіснай графікі, здаецца, у гэтым сэнсе пабіла ўсе рэкорды. На этыкетках пераблытаны і прозвішчы аўтараў літаратурных твораў, і назвы саміх твораў... А чаго варты найбольш распаўсюджаны подпіс: «Ілюстрацыя да часопіса...»!

Часта такія дробязі псуюць настрой, перашкаджаюць успрымаць творы мастацтва, блытаюць гледачоў.

**А. БЕЛАВУСАЎ.**

народнага хору Слаўгарадскага раённага дома культуры Магілёўскай вобласці (дырыжор і хормайстар В. Балахноў). У рэпертуары хору — пераважна беларускія народныя песні ў апрацоўцы для хору, зробленыя В. Балахновым.

З вялікім уздымам хор выканаў песні аб родным краі: «Мой край беларускі» (музыка М. Наско, словы Н. Гілевіча), «Партызанскі край» (музыка І. Кузняцова, словы А. Дзеружынскага) і іншыя.

Многія нумары хору былі запісаны Усесаюзным радыё і Цэнтральным тэлебачаннем для перадачы па першых праграмах.

— Наш раённы хор, — расказвае намеснік старшыні Слаўгарадскага райвыканкома Н. Канстанцінава, якая ўзначальвала паездку ў Маскву,—быў арганізаваны ў 1965 годзе. А ў 1970 годзе ён заваяваў званне лаўрэата Усебеларускага фестывалю моладзі, прысвечанага 50-годдзю камсамола Беларусі.

За дасягненні ў мастацкай самадзейнасці і паспяховыя выступленні ў Маскве хор узнагароджаны дыпломам, а харысты — значкамі «Удзельніку творчага паказу на ВДНГ СССР».

Гэтыя ўзнагароды папярэднія. Аўтарытэтнае журы пад старшынствам народнай артысткі РСФСР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР А. Пракошынай восенню вызначыць месцы пераможцаў. Але тое, што хор слаўгарадцаў быў удзельнікам усесаюзнага творчага спаборніцтва лепшых з лепшых, ужо вялікая заслуга і значны поспех усяго калектыву.

**В. БЕЛЯКОЎ,**
рэжысёр Цэнтральнай канцэртнай залы Міністэрства культуры СССР.

Масква.

# БЕССМЯРОТНЫЯ СТАРОНКІ

раным яму ўчастку не дапусціць крамолы. Можна трактаваць вобраз Шышлы і ў плане гратэска, але гэта трэба рабіць сур'ёзна і пераканаўча. Праўда, у апошніх спектаклях М. Сыман спрабуе адысці ад штампа і пайсці па шляху жыццёвай праўды ў сваіх паводзінах, а не іграць аперэтачнага героя з гітарай.

Не знайшоў пакуль што ўнутранага і знешняга рашэння выканаўца ролі Папа А. Гурэвіч. Магчыма, акцёру трэба папрацаваць яшчэ і над мовай, дыкцыяй. Тады характар будзе больш акрэслены.

Наогул, слова класіка беларускай літаратуры не заўсёды гучыць правільна, паэтычна, трапляюцца ва ўдзельнікаў спектакля няправільнае вымаўленне, не тыя націскі. І ўсё ж спектакль трактаразаводцаў хвалюе гледачоў. Праца над ім не павінна спыняцца. Трэба, каб з кожным новым паказам вобразы набывалі акрэсленыя рысы, праўдзівыя дэталі, выразную моўную характарыстыку.

Цікавай пастаноўкай я лічу «Паўлінку» Я. Купалы ў выкананні Пінскага народнага тэатра (рэжысёр заслужаны дзеяч культуры БССР І. Сакольскі).

Асновай кожнага твора Я. Купалы з'яўляецца праўда жыцця — тая глеба, на якой раскрываецца сапраўдная драма ва ўзаемаадносінах людзей, нават калі твор камедыйны.

Так зразумелі і так іграюць «Паўлінку» ў Пінскім народным тэатры. Рэжысёр перш за ўсё ідзе ад п'есы, ад яе яркіх народных вобразаў. Нягледзячы на тое, што спектакль «Паўлінка» мае свае традыцыі ў выдатнай пастаноўцы купалаўскага тэатра з удзелам славутых майстроў сцэны, у пастаноўках тэатраў братніх рэспублік і нашых народных тэатраў, пінчане чытаюць камедыю па-свойму. Аб гэтым яскрава гавораць вобразы створанага спектакля, перш за ўсё Паўлінкі (З. Друп), якая з'яўляецца камертонам пастаноўкі. Паўлінка — Друп жыццярадасная, дапытлівая, справядлівая і лірычная. А як жыве ў яе выкананні цудоўная задушэўная песня, то радасная, то задуменная! Вобраз Паўлінкі не статычны, ён у руху, дзеянні, асабліва шчыра і пераканаўча праводзіць артыстка лірычныя сцэны з Якімам Сарокам (А. Белавус). Зусім у другім плане, нават трагедыйным, гучаць сцэны са Сцяпанам Крыніцкім (М. Мулер), які хоча выдаць замуж сваю адзіную дачку за фанабэрыстага шляхціца.

Характарыстыку Якіму Сароку дае сама Паўлінка: «Кніжкі мне прыносіць... Хараша так аб усім расказвае, як трэба жыць, як людзей любіць»... Іменна такога маладога вясковага настаўніка іграе А. Белавус. Якім Сарока не толькі вучыць дзяцей і дарослых, ён прымае ўдзел у барацьбе за права «людзьмі звацца». Праўда, хацелася б, каб у апошняй сцэне развітання з Паўлінкай Якім у гэтым спектаклі быў больш актыўны ва ўчынках і выказваннях.

Самабытны вобраз Альжбеты, жонкі Сцяпана Крыніцкага, ставарае А. Міхайлава, Агаты, жонкі Пранцыся Пустарэвіча — А. Кабадзейцава. Набліжаецца да арыгінальнага Пустарэвіча А. Бажэлка. Яму смялей трэба жыць у вобразе, які так востра і камедыйна выпісаны аўтарам.

Хочацца звярнуць увагу рэжысёра на культуру ігры ўсяго ансамбля спектакля, на больш выразнае ўзаемадзеянне ўдзельнікаў, на сцэнічнае гучанне слова Купалы.

У самадзейным тэатры нельга аддзяляць рэжысёра - пастаноўшчыка ад рэжысёра-педагога і арганізатара. Рэжысёр тут павінен ведаць душу кожнага свайго ўдзельніка: хто ён, што вабіць яго ў мастацтве, чым ён захапляецца, чаму прыйшоў у калектыў. Гэта неабходна, каб дапамагчы самадзейнаму артысту больш поўна раскрыцца ў той ці іншай ролі, выявіць сваю творчую індывідуальнасць.

На вялікі жаль, ёсць у нас рэжысёры народных тэатраў, якія не вядуць вучэбна-педагагічнай работы ў сваіх калектывах.

Агляд народных тэатраў у абласцях пачаўся. Ён сведчыць пра здабыткі і асобныя недахопы калектываў нашых народных тэатраў. Абмеркаванне гэтых здабыткаў і недахопаў, асабліва калі ў ім прымуць удзел дзеячы прафесійнай сцэны, якія добра ведаюць драматургію Купалы і Коласа, прынесла б вялікую карысць. Гэта і пачэсны абавязак работнікаў мастацтва ў год 90-годдзя народных песняроў Беларусі.

**Ул. СТЭЛЬМАХ,**
заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

Антоні КАСПРОВІЧ

## ЛЮБОЎ ДА ЗЯМЛІ

Жоўтым бадыллем, трысцём
зялёным
чоркай зямельцы я б'ю паклоны.

Ветрам удару, віхуры звонам
па медзі грушын, яблынь чырвоных.

Па-над даспелым пшаніцы полем
буду жучком я гусці вясёлым,

ценька званіць камаром па балоце,
падвечар жабай кракгаць у чароце;

ноччу з нябёсаў страсу я зоркі,
каб квеццем тлелі даліны, узгоркі;

спалю бадылле дзесьці на ўзбоччы,
каб стужкай вогненнай збіць цемру
ночы.

І зноў зямельцы аддам паклоны
бадыллем дымным, успалымнёным.

## АДПАЧЫНАК

За горадам я ў адпачынку
ляжу сабе гультаявата
І кожную аблачынку
лічу з-пад сасновых шатаў.

Водар жывіцы нязвычны...
Абсыпаны гліцай сухою...
Настрой у мяне лірычны,
Нібыта ў дразда вясною.

Мінула ўжо год, пэўна, дзесяць...
З варожага ўцёкшы палону,
шукаў я прытулку ў лесе,
шукаў і знайшоў абарону.

Тады я знясілены ў Рудні,
ужо на літоўскіх абшарах,
блукаў і кружыў, аблудны,
па непраходным гушчары.

І раптам я ўчуў, небарака,
спеў, што душу мне ўзрушыў,
вячэрнюю песню з бівака —
«Аб чарнабровай Кацюшы».

## ПРА СЯБЕ

Іншым—лаўры,
ордэны, слава,
а я бясконца рады,
калі на месцы хацін трухлявых—
дамоў тынкаваных фасады.
Іншым—кватэры,
магнітафоны,
дываны, тэлевізар новы,
а я—
па вуліцы,
у Лодзь улюбёны,
шпацырую
дзяньком маёвым.

## СМУТАК

Хоць зрок я цешу зоркай нябеснаю,
што заблудзілася ў небе шырокім,
а слых зямелькі мелодыяй пестую,
пошумам лесу і песень патокам,

Часта стаю я ў вячэрняй задуме
на скрыжаванні мыслі цяжарнай
і смутку, што сэрца трывогай тлуміць,
а ноччу скінецца сном кашмарным.

Ад крыўды і жалю, што сэрцам
вызнаў,
крычу я, болем, тугой апантаны,
за горад мой, што дыміць за Віслай,
за край мой, бомбамі зруйнаваны.

О край мой, ці ўбачаць цябе мае
вочы!
О край, дзе сэрца маё засталося,
днём я блуджу невідушчы, а ўночы
тужу аб сваім нешчаслівым лёсе.

Не буду я ведаць спакою,
не прыйдзе, відаць, забыццё,
і можа вячэрняй парою
я выплюну з кроўю жыццё.

А можа прытулак жабрачы,
ці бразгат турэмных замкоў!..
Памерлі, памерлі, няйначай,
дваццаць маіх гадкоў.

А можа і куля сустрэне,
а потым шпіталь не міне...
а мо' яшчэ сонца праменне
ласкава прыгрэе мяне.

А можа... на шмат што я згодны,
абы прычакаў я, дажыў,
каб перад гневам народным
вораг наш голаў схіліў,
абы яшчэ мог я пабачыць
новага свету плады...
Дваццаці маіх год юначых
не шкада б мне было тады.

Пераклад з польскай мовы
С. ДЗЯРГАЯ.

ПІСЬМО З БАЛГАРЫІ

## ВІТАЕ САФІЯ

З вялікім поспехам прайшлі ў сталіцы Балгарыі — Сафіі і ў Варне гастролі Маскоўскага тэатра сатыры. Масквічы паказалі балгарскім гледачам свае лепшыя работы: «Тэмп. 1929», «Жаніцьба Фігара», «Зацюканы апостал».

У поспеху гастролей доля належыць і п'есе А. Макаёнка «Зацюканы апостал». У гэтым спектаклі тэатр паўстаў перад балгарскімі гледачамі як бязлітасны суддзя буржуазнай маралі, які ў памфлетна - вострай форме выкрывае агідныя норавы і ідэалогію сучаснага буржуазнага грамадства.

Спектакль у пастаноўцы Я. Радамысленскага — гнеўны прыгавор «тым чалавечым узаемаадносінам, якія вядуць у тупік, да поўнага маразму і падзення чалавечай асобы,— піша газета «Народна культура». — Рэжысёрская бязлітаснасць і непрымірымасць да герояў спектакля гэта адначасова пратэст і... папярэджанне. Сцеражыцеся віруса мяшчанскай двудушнасці... Гэты вірус калечыць чалавечыя душы, робіць іх нікчэмнымі, агіднымі! Чалавек павінен быць насуперак усяму чалавекам!». У «Зацюканым апостале» былі заняты артысты А. Лавінскі, Т. Мурына, А. Солюс, З. Высакоўскі, З. Зялінская... «Глыбока рэалістычная і таленавітая», — ахарактарызавала ігру гэтых акцёраў газета «Работнічаска дзела».

У час гастролей Маскоўскага тэатра сатыры Балгарскае радыё, тэлебачанне, друк неаднаразова выступалі са спецыяльнымі перадачамі, артыкуламі, рэцэнзіямі, у якіх далі высокую ацэнку ўсім спектаклям, назваўшы іх «сапраўдным тэатральным святам».

А. КАЛЯДЭНКА.

ЦЫРК



Выступае Альберт Іонэль (дрэсіраваныя львы і тыгры).

## ЧЫРВОНЫ, ЖОЎТЫ, БЛАКІТНЫ...

Аматары цырка ў многіх краінах свету ведаюць румынскіх майстроў гэтага арыгінальнага мастацтва. Лепшыя з іх праз кожныя два гады прыязджаюць у Савецкі Саюз. Выступалі яны і ў Мінску ў міжнародных праграмах «Цырк сяброў». Калектыў артыстаў румынскай трупы «Бухарэст» прыехаў у беларускую сталіцу ўпершыню.

Прайшло ўжо больш дзесятка прадстаўленняў. Знаёмства адбылося. Румынскія артысты прывезлі традыцыйную цыркавую праграму, кожны без выключэння нумар якой «зроблены» дабротна і адточаны да бляску.

На арэне — тры яркія кругі: чырвоны, жоўты, блакітны. Румынскія нацыянальныя колеры. Яркія, як яе палі, як яе неба і сонца.

Адкрываецца прадстаўленне «Палётам на ракеце» Ганны Брэмс. Гэта невыпадкова. Палёт, як расказаў вядучы праграмы Васіле Дабрэску, лічыцца традыцыйным. Румынскія майстры выконвалі яго ў многіх цырках свету. Ганна Брэмс паказала, што яна з'яўляецца дастойнай прадаўжальніцай старой добрай традыцыі.

У праграме трупы «Бухарэст» ёсць яшчэ адзін традыцыйны нумар. Гэта турністы Кырняну. Іх запал, высокі тэмп выступлення, камічныя трукі, якія ўводзяць артысты ў свой нумар, літаральна захопліваюць залу, прымушаюць яе ў канцы выбухнуць апладысментамі. Беларускія аматары цырка, якія бачылі на сваёй арэне зорак першай велічыні і якіх здзівіць даволі цяжка, ацанілі майстэрства трупы Кырняну. Сваім майстэрствам турністы Румыніі захаплялі гледачоў ГДР, Польшчы, ЗША, Венгрыі.

Дарэчы, яшчэ ў 1905 годзе трупа турністаў Папэску выступала ў Пецярбургу. У яе саставе быў 15-гадовы хлопчык па прозвішчы Строіч. Сёння ў цырку «Бухарэст» — Міхаіл Строіч — сын. Як бачым, і тут румынскія артысты падтрымліваюць традыцыю — традыцыю цыркавых дынастый. Праўда, Міхаіл Строіч «змяніў» прафесію бацькі. Ён — клоун. Разам са сваім напарнікам Петрышорам Бачага ён не раз прымушае гледачоў шчыра ўсміхацца.

Спадабаліся мінчанам і акрабаты на пяршы — Васіліка і Адам Стан. Дух займае ад захаплення, калі Васіліка Стан выконвае на вільчыку пярша кульбіты на веласіпедзе. Дакладна і прыгожа працуюць пад купалам цырка паветраныя гімнасты трупы «Ганя». Яе кіраўнік Эміль Пятрэску здолеў дабіцца ад артыстаў добрага, чыстага выканання ўсіх трукаў, выканання жывога, бадзёрага. Сам жа Пятрэску ў гэтым нумары—акрабат-няўдачнік з добрым гумарам, крыху смешны, крыху сумны.

Майстэрства Надзі Люпашку выклікае ў гледачоў захапленне і... здзіўленне. На вастрыі кінжала, заціснутага ў зубах артысткі, вертыкальна стаіць шабля. На яе эфесе — падсвечнік з трыма запаленымі свечкамі. І з такой «пірамідай» Надзя Люпашку свабодна перамяшчаецца, робіць розныя практыкаванні на вертыкальнай лесвіцы! Ці не дзіўна гэта? Але на тое і цырк — дарыць людзям цуды.

Вядома ж, запомняцца нам і яркая акрабатычная карусель у выкананні групы Крэцу, і віртуозная работа акрабатаў на веласіпедах (кіраўнік Люпашку), і цудоўнае жангліраванне мячом Аўгусціна малодшага. Ну, а самыя маленькія аматары цырка большую частку сваіх апладысментаў аддалі румынскім дрэсіроўшчыкам. Іх трое. Гіза Тот працуе з сабачкамі, папугаямі і галубамі, Альберт Іанель—ільвамі і тыграмі і Джорджэ Баніка з дрэсіраванымі козамі.

Суправаджае праграму аркестр Мінскага дзяржаўнага цырка пад кіраўніцтвам румынскага дырыжора Дору Бутаэску. Гэта выдатны майстар сваёй справы — аркестр гучыць выключна зладжана, свабодна імправізуючы ў патрэбных месцах, лёгка пераадольваючы ўсе «музычныя» цяжкасці суправаджэння цыркавога нумара.



Гіза Тот (дрэсіраваныя галубы).

Артысты з берагоў Дуная падарылі нам некалькі добрых гадзін.

Мулцумэск, сябры! Дзякуй!

Б. КРУЖКОЎ.

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й і 14-й стар.)

дынкаў школ і прышкольных інтэрнатаў прадпрыемствамі, перадавымі саўгасамі і калгасамі.

ВЦСПС і прафсаюзныя арганізацыі заклікаьы садзейнічаць далейшаму ўдасканаленню арганізацыі працы настаўнікаў, паляпшэнню іх жыллёва-бытавых умоў і адпачынку. Актывізаваць дзейнасць камісій і саветаў садзейнічання сям'і і школе. Узмацніць увагу да аздараўленчай работы з дзецьмі ў перыяд канікул. Разам з Міністэрствам асветы СССР і Саветамі Міністраў саюзных рэспублік ажыццявіць меры па развіцці і ўмацаванні пазашкольных устаноў, дамоў і палацаў піянераў, станцый юных тэхнікаў і натуралістаў, дзіцячых музычных, мастацкіх, спартыўных школ і лагераў працы і адпачынку, экскурсійна-турысцкіх станцый і спартыўных баз.

Міністэрству аховы здароўя СССР прапанавана палепшыць прафілактычную работу і ўрачэбны нагляд за фізічным развіццём і здароўем школьнікаў, удасканальваць сістэму мер, якія забяспечваюць умацаванне здароўя вучняў.

ЦК ВЛКСМ, ЦК ЛКСМ саюзных рэспублік, крайкомы і абкомы камсамола павінны накіроўваць дзейнасць камсамольскіх арганізацый на завяршэнне пераходу да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі моладзі; удасканальваць змест, формы і метады работы з сакратарамі камсамольскіх арганізацый школ і піянерважатымі; узняць ролю настаўніцкіх камсамольскіх арганізацый. Заахвочваць стварэнне добраахвотных таварystваў школьнікаў «Юны патрыёт», «Юны натураліст», «Юны тэхнік» і іншых.

У пастанове ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР падкрэсліваецца, што завяршэнне пераходу да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі ў нашай краіне з'яўляецца агульнанароднай справай. Актыўнае садзейнічанне ўсіх працоўных у практычным ажыццяўленні гэтага важнага сацыяльнага мерапрыемства будзе садзейнічаць вырашэнню задач, пастаўленых XXIV з'ездам КПСС, далейшаму развіццю нашай краіны па шляху да камунізма.

## НЕ ЗАКОНЧАНАЕ ІНТЭРВ'Ю



У ГЭТЫЯ летнія цёплыя дні (не тое, што зімой!) незвычайна цягне на ўлонне прыроды: можаш выпіць, дзе толькі твая душа пажадае... За вуглом таго ж магазіна на свежым паветры, на траве-мураве, у скверы пад шатамі стогадовых ліп, урэшце, на звычайнай кветкавай клумбе пчолкай божай уладкавацца... Але спакуслівая цяга да прыроды нясе часам з сабой і вялікія непрыемнасці. Па-першае, і па-другое, і па-трэцяе... можна лёганька трапіць у выцвярэзнік.

— *Як пазбегнуць гэтага?—спыталі мы ў чалавека з вялікім жыццёвым вопытам П'яна Сіняносава.*

— Перш за ўсё хачу сказаць: прыроду трэба шанаваць... Умела карыстацца ёю і шанаваць. Ну, навошта, скажам, паўзці табе на карачках на тую ж клумбу з кветкамі? Калі хапіў лішку, адляжыся, перачакай дзе-небудзь у кустах, у халадочку, будзь цішэй вады, ніжэй травы, а не лезь усім на вочы!

Цяпер жа наконт маскіроўкі... Канечне, тыя, што з маладых, можа нават і не ведаюць гэтага ваеннага слова. Ды і старэйшыя часам забываюць. Набярэцца, нажлукціцца сабе другі і шпацыруе па вуліцы, пакуль не падбяруць добрыя людзі. А чаму б табе, галава і два вухі, калі ўжо ногі не трымаюць, не ўхапіцца за дрэва? Трымайся за яго, стой сабе ды рабі выгляд, што ліпнёвы мядовы водар удыхаеш... Урэшце і ад яго ап'янець можна!

— *Ну, а калі не выкарыстаў, парушыў вашы правілы маскіроўкі, калі пад'ехала машына і забіраюць у выцвярэзнік — што тады? Няўжо няма выхаду? Ці не маглі вы прыгадаць аналагічны выпадак са свайго жыцця?*

— Бадай што паратунку няма... Праўда, некаторыя спрабуюць уцякаць. Смяхоцце адно: нібы тое немаўлятка, пракасалапіць крокі са два і паваліцца на зямлю снапам. Другія — яшчэ горш: спрабуюць адбівацца... У рукапашную ідуць... Але ж, «з мечам прыйдзеш—ад меча і загінеш»!

Уласна я ніколі не пярэчу ў такім становішчы —ціхмяны, як авечка: забірайце, калі ласка, вядзіце... Толькі аднойчы, калі я яшчэ маладзейшы быў, схітрыў трохі. Яны мяне ў машыну, а я—во-ой, вой, вой, апендыцыт! Рашыў: калі ўжо ў выцвярэзнік, дык лепш пад нож хірурга... Выразалі! Затое на работу не паведамілі.

— *Як мы разумеем, вы лічыце, што ў межах горада з'яўляцца ў нецвярозым стане небяспечна?*

— Але... І прыяцелі мае ўсе так лічаць... Ды толькі становішча не такое безвыходнае, як можа паказацца. Ёсць стары і апрабіраваны спосаб: рыбалка! Купі якую-небудзь сабе вудку (зноў жа, заўважце, маскіроўка) і шуруй з сябрамі за горад... Тое ж улонне прыроды, можа яшчэ лепшае, тая ж кампанія, тая ж гарэлка... І—аніякай небяспекі. Вось і цяпер еду...

— *Мы спадзяемся, што нашу гаворку зможам неўзабаве прадоўжыць?*

— Калі ласка!

P. S. Калі мы падрыхтавалі інтэрв'ю да друку, нам стала вядома, што П. Сіняносаў не вярнуўся з апошняй рыбалкі...

**М. М.**

*З ЗАМЕЖНАГА ГУМАРУ*



*З ЗАМЕЖНАГА ГУМАРУ*




Мерка для прадаўца.

**У РЭСТАРАНЕ**

— Ты чаму так часта пазіраеш на гадзіннік?

— Урач загадаў перастаць піць, пакуль не позна.

□

У парыжскім бары адзін з наведвальнікаў п'е чарку за чаркай. Сусед гаворыць яму:

— А вы не ведаеце, што паводле статыстыкі штогод два мільёны французаў памірае ад алкаголю?

— Магчыма, але мяне гэта не хвалюе. Я англічанін.

□

На другі дзень пасля сяброўскай вечарынкі Антон апамятаўся ў бальніцы, захутаны ў бінты з галавы да пят.

— Што здарылася?—пытае ён спалоханы.

— Не памятаеш?—здзіўляецца сябар.—Ты пад поўнач расчыніў акно і, звяртаючыся да нас, сказаў: «Хлопцы, паглядзіце, я зараз палячу, як матылёк!»

— І вы мяне не спынілі?—крычыць паранены.

— А навошта ж? Мы сапраўды верылі, што ты можаш лятаць!

# Я НАПІСАЎ ФЕЛЬЕТОН...

## СКАРГА ФЕЛЬЕТАНІСТА

АДНОЙЧЫ я напісаў фельетон. На бытавую тэму. Пра дэбашыра і п'яніцу. Фельетон у рэдакцыі ўхвалілі і надрукавалі. Я, вядома, радаваўся, але нядоўга. Праз колькі дзён выклікае мяне ў свой кабінет рэдактар.

— Во, чытай! — і падае мне пісьмо са свежай пошты.

Я прачытаў:

«Паважаны таварыш рэдактар! Ваш «фельетаніст» Антон Калючык —сам дэбашыр і п'яніца. Ён скляпаў на мяне так званы «фельетончык» у карысных мэтах. Дзеля ганарару. Справа ў тым, што я, з дазволу сказаць, з гэтым «фельетаністам» некалі жыў у адным доме, у адным пад'ездзе, на адным паверсе, на адной лесвічнай пляцоўцы. І што ж вы думаеце, паважаны таварыш рэдактар? Ён, гэты самы Антон, разбіў маё сямейнае жыццё! (А ў мяне было тады двое маленькіх дзяцей!) Бывала, іду з работы, а гэты самы Антон стаіць з маёй жонкай на лесвічнай пляцоўцы. Яна плача, а ён нешта ёй гаворыць. Што ў такіх, лесвічных абставінах, можа гаварыць чужы мужчына чужой жонцы? Я чалавек вытрыманы нават і тады, калі прыму кілішак — другі «зелля». Прывалаку жонку ў кватэру і, як гаворыцца, без адрыву ад дзвярэй, тыцкаю кулаком ёй у нюхаўку. «Завошта?» — пытаецца жонка. А я адказваю: «Калі б ведаў завошта, то яшчэ не так бы тыцнуў». Адным словам, дробныя, сямейныя канфлікты. А ў каго іх не бывае? Скончылася гэта тым, што мая жонка падала на развод. Развялі. А дзяцей, чамусьці, прысудзілі жонцы. Маўляў, я, Мікалай Аўсянік, дэбашыр і п'яніца і не магу выхоўваць уласных дзяцей. Цяпер вы разумееце, што нарабіў ваш «фельетаніст»?.. Цяпер я жыву адзін, а гэты Антон ходзіць са сваёй жонкай і на мяне пальцам паказвае: «Вунь, той самы, развядзёны...» А чым ён лепшы за мяне? Можа калі б я пагаварыў з яго жонкай на лесвічнай пляцоўцы, магчыма той жа «фельетаніст» таксама даваў бы паказанні ў нашым судзе з прычыны сямейнага разладу...»

— Ну, што? — пытаецца рэдактар. — Перасаліў? У такіх далікатных справах факты трэба правяраць, пераправяраць і яшчэ раз правяраць...

Факты праверылі і пераправерылі. Усё, што я пісаў, пацвердзілася.

Акрылёны першай сваёй літаратурнай перамогай, я напісаў другі фельетон аб несумленным дырэктары прадуктовага магазіна, які адпускаў усё лепшае, што было ў магазіне, сваім знаёмым. Праз «чорны ход».

І гэты фельетон ухвалілі і надрукавалі. Ды радасць зноў мая была заўчаснай. Зноў выклікаў мяне рэдактар. Зноў падаў пісьмо са свежай пошты.

— Во, чытай...

Чытаю:

«Таварыш рэдактар! Ваш «фельетаніст» А. Калючык, відаць, атрымлівае добрую зарплату, хапае ганарарчыкі і пасміхаецца з такіх бедакоў, як, скажам, я. А дарэмна! Яму б сядзець побач са мною, на лаўцы падсудных. Ну, няхай я ў сваёй дзейнасці, якая вельмі патрэбна народу нашаму, прамахнуўся. Спатыкнуўся, адным словам. Дык што ж — у турму мяне? А ваш «фельетаніст», можа, горшы за мяне? Спашлюся на факты. Кожны божы дзень гэты самы Калючык заходзіў у наш магазін — відаць, непадалёку жыве. «Беламор» купляў. Купляе вышэй названы «Беламор» і заўсёды ў прадаўшчыцы пытаецца: «А свежая рыба сёння будзе?» Праўда, свежай рыбы ў нашым магазіне ніколі не бывала. Гэта я вінават, прызнаюся. Але чаму ён пытаецца пра свежую рыбу? Вядома, калі б яна была, то гэты ваш «фельетаніст» не стаў бы ў чаргу, а прыбег бы да мяне выпрошваць... У гэтым я ўпэўнены. Колькі іх было такіх у мяне! Словам, я не скарджуся, таварыш рэдактар. Я проста вас папярэджваю: праверце свае кадры! З глыбокай павагаю да Вас—падсудны, былы дырэктар прадуктовага магазіна, Аляксей Невядомка».

— Ну, што?—пытаецца рэдактар.

— Усё правільна, — кажу. — Факты правераны, пераправераны і яшчэ раз правераны. Пакуль я правяраў і пераправяраў, дык гэты самы дырэктар прадуктовага магазіна памяняў месца жыхарства. Не па сваёй волі пераехаў на новае месца...

Рэдактар пахваліў мяне за аператыўнасць і за добры фельетон. У маім аўтарскім самалюбстве варушыўся ўжо не адзін мікроб славы. Знаёмыя і сябры ўжо не ўспаміналі пра Міхала Міхайлавіча Зошчанку. Яны проста пры сустрэчы кланяліся капелюшамі, шапкамі, кепкамі, а ў гарачае надвор'е—лысінамі.

Мой літаратурны аўтарытэт фельетаніста ўзмужаў і акрэп. Аслабла толькі сямейнае становішча. Як толькі прыйду дадому, жонка пачынае адну і тую ж гаворку:

— Мне сорамна за цябе, табе ж не дваццаць гадоў, куды ты лезеш на ражон? Усе знаёмыя на цябе пальцам паказваюць: «Вунь пайшоў той самы фельетаніст, што з работы здымае і, нават, у турму садзіць». Апамятайся, будзь чалавекам! Не даводзь справы да развода!

Вось тут і задача: разводзіцца з жонкай ці са сваімі фельетоннымі героямі?

Міхась ПЯНКРАТ


По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.